# Сельска-гаспадарчая часопісь „Плуг“.

*Выходзіць штомесячна з 1-га студзеня 1925 году.*

**Выданьне Народнага Комісарыяту Земляробства Беларусі.**

Часопісь ставіць сваёй мэтай у навукова-популярнай форме пашыраць сельска-гаспадарчыя веды і знаёміць наша перадавое сялянства з працамі і дасягненьнямі дасьледчых станцый, лепшых гаспадароў-практыкаў і агрономічнай навукі. Часопісь лічыць патрэбным знаёміць беларускіх гаспадароў з тымі спосабамі вядзеньня сельскай гаспадаркі, калі бяз значных грашовых сродкаў можна павялічаць яе прыбытак. *Лепшыя тэхнічныя прыёмы выробленьня поля, скарыстаньне мясцовых сродкаў угнаеньня, пашырэньне засеву лубіну, лёну, бульбы і кармовых расьлін могуць шмат чым дапамагаць нашаму селяніну.*

Другое—*багаты сялянскі вопыт* могуць выкарыстаць паасобныя гаспадары толькі ў тым выпадку, калі ён будзе сабраны і паказаны на старонках с.-г. кнігі ці часопісі.

Разам з усім гэтым мы бачым шырокую перабудову нашай сельскай гаспадаркі на больш даходны лад. Будуецца Новая вёска, ствараецца новы быт і лепшыя ўмовы працы. Узрастае сялянскае самадзейнасьць і шырыцца ўплыў коопэрацыі на сельскую гаспадарку. Усе гэтыя зародкі соцыялістычнай гаспадаркі знаходзяць ці павінны знаходзіць высьвятленьне на старонках часопісі „ПЛУГ“.

Часопісь можа быць карыснай перадавому сялянству, хатам-чытальням, с.-г. гурткох, вясковым школам і настаўнікам, організацыям ЛКСМ, зямельным, агрономічным і коопэрацыйным працаўнікох раёну, рабочым саўхозаў, с.-г. арцелям, комунам і г. д.

У кожным нумары зьмяшчаецца больш 20 практычных артыкулаў.

Матэрыялы гаспадароў-практыкаў, вучастковых агрономаў і ўсіх мясцовых працаўнікоў зьмяшчаюцца ў першую чаргу.

*Супрацоўніцтва платнае.*

**Падпісная плата на 1925 г.**

На год—**3 р.**, 6 месяцав—**1 р. 70 кап.**, 3 месяцы—**90 коп.**

Кошт асобнага нумару—**30 кап.**

Адрэс Рэдакцыі: **Менск, Савецкая 71, НКЗ Беларусі.**

1-я Дзярж. друк.—лік 4000 экз. Зак. № 3072. Галоўлітбел № 8828.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

№ 4. Красавік 1925 г. № 4.

## Памяці настаўніка агрономаў.

13 красавіка г.г. у Маскве памёр Аляксей Федаравіч Фартунатаў. Імя яго вядома кожнаму агроному і статыстыку на абшарах усяго Саюзу Рэспублік. Многалічныя яго вучні і тысячы вучняў яго вучняў з падзякай схіляюць галовы над сьвежай могілкай. Беларускай-жа агрономіі А. Ф. двойчы дарагі. З глыбокаю павагай адносіўся А. Ф. да прыгнечанае працоўнае Беларусі. Ён за царскія часы бачыў экономічнае і культурнае пакрыўджаньне нашае краіны і першым з расійскіх вучоных сьмела сказаў, што расійская навука лепш дасьледвала далёкую Іркуччыну, чым Беларускую Меншчыну.



Проф. А. Ф. Фартунатаў.

А. Ф. не абмежаваўся адным такім прызнаньнем. Ён сам дасьледуе Беларускую сельскую гаспадарку, чытае аб ёй лекцыі на беларускіх настаўніцкіх курсах у Народ. Універсытэце ў 1918—20 г.г., піша аб статыстыцы сельскай гаспадаркі беларускіх губэрань („Курс беларусазнаўства“), апрацоўвае дзьве тэмы „Жывёлаводства Беларусі“ і „Сад і гарод Беларусі“. Ён будзіць сярод студэнтаў-беларусаў дасьледчую думку, дапамагае ім сваёю радаю, крытыкай, дае для карыстаньня сваю багацейшую бібліотэку... Дзякуючы А. Ф. дасьледчая думка ў студентаў - агрономаў пусьціла глыбокае карэньне.

Мерку значэньня чалавека дае тая эпоха, ў якую ён жыў. Для сарака-ж даваенных год А. Ф. зьяўляўся сапраўдным рэволюцыянэрам у навуцы, грамадзкасьці і асабліва ў агрономічнай пэдагогіцы. Ён заслужона насіў імя „бацькі расійскай грамадзкай агрономіі, бацькі земскай статыстыкі“. А. Ф. адыграў вялікую гістарычную і рэволюцыйную ролю ў свой час.

# Землябудаўнік і сялянства.

У нашай вёсцы цяпер з кожным днём нарастае актыўнасьць. Асабліва гэта выяўляецца ў жаданьні сялян землябудаўніцтва. У Раёны і Акрземаддзелы падаецца аб гэтым столькі заяў, што іх ужо нельга выканаць на ўсе 100 проц.

Нажаль, наша землябудаўніцтва часта мае і значныя недалікі. На наш погляд усім землепрацаўнікам і землябудаўнікам неабходна заўсёды мець на ўвазе, што новае землябудаўніцтва павінна праводзіцца так, каб яно магло паказаць селяніну на справе, што пры новых спосабах землякарыстаньня яго жыцьцё будзе лепшым. Гэта патрэбна праводзіць у вёсцы, бо інакш наша зямельная палітыка на першы час ня будзе зразумела сялянству.

Землябудаўнікі на месцох павінны ў сваёй працы дакладна выявіць ролю савецкага землябудаўніка. А гэта роля вельмі адказная.

Усім вядома, што пры землябудаўніцтве шмат што залежыць ад землябудаўніка. Нам аб гэтым гавора вопыт мінулых год і тая землябудаўнічая праца, якую мы ўжо зрабілі. Там, дзе землябудаўнік у сваёй працы ня трымаўся „казёншчыны", як „чыноўнік-тэхнік", землябудаўнічыя справы мелі хуткае вырашэньне. І наадварот, там, дзе адносіны землябудаўніка былі толькі спэцаўскія, землябудаўніцтва мела характар валакіты. Яно цягнулася два-тры гады і па сваёй сутнасьці апрача шкоды селянству нічога ня прынесла.

Нам могуць сказаць, што тут ад землябудаўніка шмат чаго не залежыць: у яго на ўсё ёсьць земкодэкс і інструкцыі, якімі ён кіруецца.

Каб быць зразумелым у гэтым пытаньні, мы перш адказваем, што кожную інструкцыю на месцы працы патрэбна тлумачыць і разумець так, каб яна была карыснай маламоцнаму і серадняцкаму сялянству (для гэтага яе пішуць).

Увесь мінулы землябудаўнічы вопыт і імкненьне сялянства да новых форм землякарыстаньня і дазваляе нам сказаць, што *савецкі землябудаўнік павінен адпавядаць таму вялікаму прызначэньню, якое ён мае ў землябудаўнічай справе.*

Па 1-е, *ён павінен быць у вёсцы ня „чыноўнікам-землябудаўнікам"*, а каштоўным грамадзянінам у сэнсе пашырэньня сярод сялян лепшых спосабаў землякарыстаньня і нават павінен быць правадыром гэтых новых форм. А гэта створыць яму аўторытэт сярод насельніцтва.

Па 2-е, *землябудаўнік у вёсцы павінен мець шчыльную сувязь з мясцовымі ўстановамі*, што можа запэўніць найлепшы пасьпех яго землябудаўнічай працы.

Па 3-е, *ён не павінен адрывацца ад сялянства*, а заўсёды быць сярод яго, як старшы таварыш. Такім чынам, землябудаўнік можа быць зразумелым сялянству, сярод якога ён працуе і якому хоча дапамагчы шляхам стварэньня лепшых форм землякарыстаньня.

**І. Ц.**

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Як сеяць лубін на зялёнае ўгнаеньне.

На Беларусі пры малым ліку скаціны бяз лубіна не магчыма мець добрыя ўраджаі. Але сеяць лубін трэба ўмеючы, бо ад гэтага залежыць добры ўраджай зялёнае масы. Заўважым, што *лубін розьніцца ад збожжавых расьлін тым, што карэньні яго йдуць глыбока ў зямлю, а з паветра ён карыстаецца каштоўным азотам.* Вось чаму і на благім полі, дзе збожжа расьці ня можа, лубін без усялякага ўгнаеньня дае добры ўраждай. На *глебах* балотных і вільгатных лубін не ўдаецца. Па досьледам Горацкае с.-г. дасьледчае станцыі на *лёгкіх і шчыльных суглінках зялёная маса лубіну дасягала 3000 пуд. з дзес.*

Найлепшай глебай *дзеля* лубіна лічыцца пухлянае і цёплае пескавое поле, але на зусім пустых пяскох лубін дае добрую *зялёную масу* толькі за другім ці трэцім засевам.

*Апрацоўка глебы пад лубін* мала чым адрозьніваецца ад іншай ярыны. Асабліва сур'ёзную ўвагу трэба зьвярнуць на чыстату поля, бо шкодныя травы вельмі шкодзяць усходам лубіну да часу зьяўленьня на яго кареньні гузачкоў (клубянькі). Да гэтага часу лубін расьце вельмі марудна. Для барацьбы са шкоднымі расьлінамі поле пад лубін трэба араць з восені.

*Угнаеньне глебы пад лубін* у нашых умовах робіцца вельмі рэдка. Але да гною (нават у невялікім ліку) па досьледам Новазыбкаўскае дасьледчае станцыі лубін вельмі чулы. Апошняе асабліва каштоўна, калі яго сеюць першы раз на пустых глебах.

*Мінэральныя* ўгнаеньні (парашкі) *значнага павялічэньня* масы *лубіну не даюць.* Гэта можна тлумачыць тым, што лубін у ніжэйшых пластох нашых глеб знаходзіць даволі для сябе пажыўных сокаў, якія не выкарыстоўваюцца іншымі расьлінамі.

Пры засевах лубіну трэба зьвярнуць увагу:

1) *на якасьць насеньня,* якое прызначана да засеву;
2) *на прысутнасьць у глебе лубінавых бактэрый* (мікробаў);
3) *на час,* у які *спаўняецца сеў лубіну;*
4) *на спосаб* і *глыбіню засеву.*

*Прадажны лубін часта мае малую ўсходжасьць,* бо буйное насеньне яго, калі яно ня добра высушана, пачынае плясьнець і траціць сваю ўсходжасьць.

Перад засевам лепш заўсёды спрабаваць усходжасьць насеньня. Для чаго з розных месц кучы насеньня бяруць 100 зярнят і кладуць на талерку паміж двума кавалкамі мокрага палатна і частавата змочваюць іх вадою.

Калі за 10 дзён прарасьце менш 70 зярнят, то насеньне лічыцца дрэнным і засеў такім насеньнем няпэўны.

Пры сярэдняй усходжасьці (каля 80 проц.) *патрэбна насеньня лубіну на 1 дзес.* 10-13 пуд. пры раськідным засеву і 8-10 п. пры радковым.

Другое, *дзеля добрага росту лубіну трэба яшчэ каб у глебе былі лубіновыя бактэрыі*, якія бяруць з паветра азот і ўтвараюць на карэньні лубіну ўсім вядомыя клубянькі.

У полі, на якім лубін раней ня рос, гэтых бактерый у глебе няма; яны зьявяцца толькі пад канец росту лубіну і, вядома, дапамогуць яму мала.

Пачынаючы сеяць лубін, варта заўсёды заражаць поле бактерыямі. Спаўняецца гэта living рознымі спосабамі. (Папярэдні і зусім рэдкі засеў лубіну на тым-жа полі ў мінулым годзе; раськіданьне па полі зямлі з-пад ранейшага севу лубіну і інш.).

Усе гэтыя спосабы заражэньня поля бактерыямі ўжываюцца і пры засеву сэрадэлі (гл. „Плуг“ № 3).

*Заражэньне заўсёды трэба рабіць у хмарную пагоду* і па магчымасьці хутчэй, бо сьвятло сонца шкодзіць бактэрыям.

*Лубін любіць цяпло і баіцца веснавых прымаразкаў*, дзеля чаго найлепшым часам сяўбы лічыцца канец траўня. (*Насенны лубін сеюць раней!*). У сырую і халодную пагоду насеньне лубіну можа ня ўзышоўшы загніць. Прарастае насеньне лубіну пры 4-5° Цэльсія.

*Нельга вельмі глыбока прыкрываць насеньне лубіну*, бо прарастаючы ён павінен выносіць на паверхню зямлі свае (даволі буйныя) два першыя лісткі.

Пры мелкім-жа прыкрываньні (*на пяскох)* насеньне выбіваецца на паверхню дажджом і гіне, а пры сухой пагодзе доўгі час не прарастае.

Лепшай глыбінёй прыкрыцьця лубіну на лёгкім пескавым полі трэба лічыць 3/4-1 вярш., а на больш шчыльных глебах і менш.

Лепшым спосабам засеву лубіну лічыцца радковы, пры якім усё насеньне можна ўкласьці на аднолькавую і патрэбную глыбіню.

Далей, ад *самага засеву і да заворваньня лубін не патрабуе ніякага догляду*, апрача мо‘ толькі аднаго поліва, калі ўсходы забіты шкадлівымі травамі.

*Пад жыта лубін трэба заворваць за тры-чатыры тыдні да засеву.* Трэба каб да засеву жыта зямля асела, а маса лубіну пачала-б загніваць. Калі-ж масы было вельмі шмат і яна кепска прыціснута пластамі ральлі, то поле трэба павальцаваць.

Заворваць лубін можна няскошаны. Каромыслам плуга ці ланцугом, прывязаным да дышля плуга, лубін добра кладзецца і прысыпаецца пластамі ворыва.

*Здараецца, што лубін ідзе на ўгнаеньне бульбы і інш. ярыны.* Тут ужо можна атрымаць больш зялёнае масы. Дзеля гэтага лубін пакідаюць на полі да таго часу, калі пачнуць сохнуць дробныя лісьцікі сьцябла. Гэта паказвае, што лубін больш не расьце і яго можна заворваць. Ад часу красаваньня лубіну і да часу зьяўленьня на ім бліскучых струкоў вага масы лубіна можа павялічыцца у 2 1/2-3 разы. (Досьледы Новазыбкаўскае дасьледчае станцыі).*)

Аграном **А. Берзін.**

---

*) *Рэд.* У пытаньнях скарыстаньня любіну, як зялёнага ўгнаеньня пры ўмовах Беларусі, больш поўны матар‘ял можна мець з прац Горацкай, Новазыбкаўскай і Беларускай (Менскай) с.-г. дасьледчых станцый.

# Як сеяць кармовыя буракі.

Корняплоды (турнэпс, буракі, морква, бручка і інш.)--патрэбная рэч у сялянскай гаспадарцы. Зімою, калі жывёла стаіць на сухім корму, корняплоды замяняюць ёй зялёную траву. Другое, кораняплоды пры сваіх высокіх ураджаях дазваляюць селяніну з невялікай плошчы поля атрымаць шмат добрага і таннага корму. Напрыклад, даволі мець 160 пуд. кармовых буракоў, каб забясьпечыць адну карову на ўсю зіму сокавым кормам (7 месяцаў, па 30 фунт. у дзень). Па спажыўнасьці 160 пуд. буракоў раўняецца 32 пуд. добрага сена канюшыны. А каб атрымаць 160 пуд. кармовых буракоў пры сярэднім іх ураджаі 2400 пуд. з дзесяціны, патрэбна толькі 160 кв. саж. поля.

Канюшына пры сярэднім ураджаі 250 пуд. з дзесяціны з той-жа плошчы дасьць толькі 16½ п. Бачым, што буракі даюць у два разы больш корму, чым канюшына. Аб гэтым нам могуць сьведчыць два прыклады з практыкі сялянскай гаспадаркі.



Экэндорфскі бурак.

У вёсцы Карзунох, Магілеўскае акругі селянін Янка Кірылаў пасеяў у 1924 г. буракі. (Экэндорфскія жоўтыя). Каб быць пэўным за ўраджай, ён пад засеў буракоў прызначыў кавалак гароднае зямлі, куды вясною вывёз яшчэ гною. Засеў быў зроблен на загонах шырынёю ў $1\frac{1}{4}$ арш. па тры радкі на кожным. Насеньне было добрае і дало густыя ўсходы. Але разам з буракамі зьявілася і шмат травы, якая хутка абагнала рост буракоў. Прапалоць ці прарваць буракі ў свой час Кірылаў не дагадаўся. Толькі, як буракі ўжо схаваліся ў траве, было зроблено поліво, а прарываньня так і ня было зроблено. Загэтым, увосень замест вялікіх, добрых буракоў парасьлі маленькія, так званыя „мышыныя хвосьцікі“, але і яны з 40 кв. саж. далі 8 пуд. буракоў, значыць 500 пуд. з дзесяціны.

Другі селянін з вёскі Вялікае Замоцьце, Аршанскае акругі Ігнась Крупень пасеяў тыя ж самыя буракі на канюшынішчы, завораным зараз-жа пасьля першага скосу і вясною ўгноеным. Пасьля звычайнага вырабу поля, вясною былі зроблены асыпнікам гранкі на адлегласьці 8-10 вярш. адна ад другой.

На аднэй частцы вучастку буракі былі пасаджаны насеньнем. У кожнае гняздо клалася па 2 клубочкі; гнёзда на 8 вярш. адно ад другога. Другая палова вучастку была засаджана расадай.

Як толькі буракі ўзышлі і на першым вучастку трохі падрасьлі, было зроблено поліво і прарываньне. Поліво ў працягу ўсяго лета рабілася яшчэ два разы. Адзін раз буракі былі абагнаны асыпнікам. Догляд скончыўся, калі лісьця закрылі ўсю плошчу зямлі. Па словам Крупені, буракі, пасаджаныя расадай, былі лепшыя, чым пасаджаныя насеньнем.

Пад буракамі было 100 кв. саж. Буракоў (кораняплодаў) сабрана 150 п., а з дзесяціны пры гэтым ураджаі выходзіць 3600 пуд. Крупень пры доглядзе і на горшай зямлі атрымаў ураджай у 7 раз большы, чым Кірылаў.

Кармовыя буракі лепш садзіць у полі, чым на гародзе. Зямлю трэба пад іх вырабляць добра: перш заараць на зіму, вясной чым раней забаранаваць, а далей, пасьля сева ярыны, яшчэ ўзмяшаць. Там, дзе ральля няглыбокая, на полі пад буракі лепш адразу ганяць гранкі асыпнікам.

Зямлю гнаіць трэба найлепш. Толькі ў такім выпадку ўраджай буракоў будзе добры.

Добра садзіць буракі на полі з-пад бульбы, дзе поле вельмі добра апрацована. У тым выпадку, калі буракі сеюць па аржоньні з-пад угноенага жыта, добра яшчэ вясной за тыдзень да засеву буракоў вывезьці гною або штучнага ўгнаеньня (супэрфосфату, калійнае солі і салітры). Салітра асабліва каштоўна, але яна даволі дорага каштуе. Замест салітры можна паліваць буракі гнаёваю жыжкай, разбаўленай на палову вадой.

Сеяць буракі трэба радкамі і няглыбака (добра сеяць ручным сяўнікам „планэт"). Радок ад радка павінен быць на 12 вярш. Калі ўсходы буракоў будуць у 1½-2 вярш., іх трэба прарваць, пакідаючы расьлінкі пучкамі па 3-4 разам, а праз тыдні два пакінуць толькі па аднэй расьлінцы; адна ад другой на 6-8 вяршкоў. Аднача́сова з гэтым робіцца поліво. Поліво і адначасовае ўзрыхленьне глебы трэба рабіць некалькі раз пакуль лісьця не закрыюць усю зямлю. Не прарваць ці не прапалоць у свой час буракі, значыць страціць добры ўраджай. З сартоў буракоў-эккэндорфскія на суглінкавых глебах у Горках давалі добрыя вынікі. Сярэдні ўраджай даходзіў да 1900-2400 п., а высокі да 6000 пуд. на дзесяціну.

**Агроном Пушкароў.**

---

# З практыкі севу караньплодаў.

Пры перабудове нашае гаспадаркі на жывёлаводны лад нельга абыйсьціся без корняплодаў. Караньплоды—найлепшы сакавіты корм зімою. На падставе сваёй 12-ці гадовай практыкі вывучэньня ў нашых умовах 20 сартоў буракоў, 12—морквы, 12—турнэпсу і 6—бручкі, я прышоў да гэтакіх вынікаў. У Беларусі на сярэдніх супескавых і суглінкавых глебах лепш родзіць морква і турнэпс, а горш бручка. Гэта тлумачыцца тым, што морква і турнэпс больш трывалы пры нашых глебах і клімату. Морква не баіцца веснавых прымаразкаў; яе можна сеяць рана і зьбіраць позна ўвосень. Турнэпс-жа мае кароткі тэрмін росту. Яго можна сеяць і рана, і позна. Заўсёды яго добра сеяць пасьля дажджу. Бручку менш усяго можна раіць. У сярэднім я атрымоўваў з дзесяціны гэткія ўраджаі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| турнэпсу . . | 3000-3500 п. | буракоў . . | 1500-2000 п. |
| морквы . . | 1500 п. | бручкі . . . | 2000 п. |

Няўдача з корняплодамі ў мяне часьцей была тады, калі я не пасьпяваў вывозіць з восені гной. Каб у гэткім разе наладзіць справу; трэба вясной чым раней вывезьці на поле перапрэўшы і маласаломісты гной. У такім разе я найчасьцей вывозіў конскі гной. Але сеяць па сьвежаму гною моркву ня раіцца. Морква дужа зарасьце розным зельлем і можа зусім загінуць. Лепш усяго сеяць моркву пасьля бульбы або ўгноенага жыта. На дзесяціну я высяваў морквы 10 фунтаў, буракоў 1-1½ п., бручкі і турнэпсу па 5 ф.


Турнэпс.

Вясною раней ўсяго трэба сеяць моркву і бручку. Буракі баяцца холаду і сеяць іх рана нельга. Памылкі з буракамі ў мяне часта здараліся ад таго, што я пазьніўся з засевам. Нарэшце, прышоў да выніку, што моркву трэба сеяць, як толькі растане сьнег і можна выйсьці на поле з бараною ці плугам. Звычайна я сею моркву раней гароху, выкі і насеннага лубіну. Два разы я сеяў моркву ўвосень перад марозамі. У гэтым выпадку я атрымоўваў ураджай да 3000 п. з дзесяціны. Але ад такога севу морква бывае дупляватая і хутка псуецца.

За морквою я сею буракі і бручку. Гэты тэрмін прыпадае да раньняга севу збожжа. Турнэпс можна сеяць і пасьля засеву ярыны. Раньнія засевы больш пэўны: яны ня так баяцца земляной блыхі.

Часта памылкаю можа быць і запазьненьне з полівам і асыпаньнем корняплодаў. Нашы глебы такія, што пазьніцца з гэтым нельга. Наогул-жа, корняплоды любяць частае рухленьне глебы.

Год 6-7 я рабіў параўнаньне сева кораньплодаў на гранках з севам па роўнаму полю і прышоў да думкі, што гэта ня мае асаблівага значэньня.

Бручку я перш выводжу расадай, а далей яе высаджваю ў пол е Гэта дае больш пэўныя вынікі. Частку буракоў я гэтак-жа сеяў для расады. Яна вельмі патрэбна на засадку прагалін, якія зьяўляюцца ў полі пры нядружных усходах.

**В. Жыван.**

---

# Яравая пшаніца.

Яравая пшаніца зьяўляецца самым каштоўным збожжам на Беларусі. Аднака сеюць яе сяляне мала.

Адначасова з разьвіцьцём земляробства на суседняй з намі Украіне яравая пшаніца часткаю ў будучыне мо' і страціць сваё значэньне ў нас, але ўсё-ж каштоўнасьць яе, асабліва ў бліжэйшыя годы, ня зьнізіцца. Загэтым, нашаму сялянству варта заняцца гэтай расьлінай.

У паўночнай Беларусі яравая пшаніца засяваецца сярод зімовага збожжа і добра ўдаецца. У паўднёвай-жа частцы яе сеюць, як у жытнім, так і ў яравым полі. Яна патрабуе добра ўгноенай і чыстай ад сарнякоў зямлі, дзякуючы чаму лепш усяго ўдаецца на пагнойным бульбянішчы. Гэта месца і займае яравая пшаніца пераважна ў паўднёвай Беларусі; там пасьля бульбы ў яравым полі сеецца канюшына, бо гаспадаркі часьцей маюць шматпольле. Тут пшаніцца ўдаецца вельмі добра.

Пры трохпалёўцы яравую пшаніцу некаторыя гаспадары сеюць у яравым полі. Аднака, яна рэдка там удаецца, чаму лепш яе сеяць пасьля папару.

У самым паўднёвым кутку Беларусі, дзе зімовае збожжа сеецца і на бульбянішчу, яравая пшаніца бывае ўдалай. Пры іншым папары і пры ўгнаеньні поля вясною нават гноем у сухія гады пшаніца не ўдаецца.

Шкодных траў яравая пшаніца вельмі баіцца і таму поліво яе вясною абавязкова.

Засеў пшаніцы робіцца па магчымасьці рана.

Разам з тым, пшаніца баіцца значных прымаразкаў, чаму ўгадаць тэрмін засеву пшаніцы усё-ж такі цяжка.

Можна спадзявацца, што ў гэтым годзе, дзякуючы раньняй вясьне з невялікімі прымаразкамі, ярына наогул будзе добрай. Ня трэба толькі пазьніцца з засевам ячменю і аўса. Яравую пшаніцу трэба сеяць каля пачатку траўня.

Агроном Энгэльгардт.
(Турская дасьледчая станцыя).

---

# Засеў і скос канюшны.

На Беларусі канюшына ўжо маецца ў шмат якіх сялян (перш у тых, якія завялі шматпольле). Канюшына вельмі карысная расьліна. З засевам канюшыны павялічыліся і ўраджаі збожжа; апрача таго, скаціна мае добры корм.

Але ня ўсе яшчэ сяляне сеюць канюшыну. Загэтам, я параю, як яе сеяць і ўбіраць. Звычайна канюшыну падсяваюць у зімовае збожжа або ў ярыну. У зімовае збожжа яе падсяваюць часьцей на поўнач ад Менску, Магілева і Клімавіч. На поўдзень-жа, асабліва на пескавых глебах, падсяваюць канюшыну пад ярыну (пшаніца, ячмень).

Канюшына любіць, каб яе сеялі пад зімовае збожжа ў самую раньнюю вясну. У ярыну-ж падсяваюць з першым высевам збожжа. Але не заўсёды можна пасеяць канюшыну рана вясною (асабліва калі насеньне купляецца). Здараецца, што сеюць канюшыну і ў траўні, пачакаўшы хмарнага дню. Засеянае насеньне трэба прыкатаць калодай, ці закрыць валакушай. Засеў-жа канюшыны па ярыне робіцца пасьля баранаваньня ярыны.

Найлепш усяго канюшына ўдаецца па яравой пшаніцы і ячменю, аднака й авёс зьяўляецца даволі добрай укрываючай расьлінай. Пад канюшыну гною не кладуць, але яна яго вельмі любіць.

Высеваецца канюшыны на 1 дзес. 30-60 фунт. Праўда, деля таго, што насеньне канюшыны каштуе дорага, на дзесяціну сеюць яго ня больш пуда. Але калі насеньне сваё, то лепш сеяць больш 30 фунт. У гэтым разе канюшына ў першы год дасьць сена больш пудоў на 30, і на другі год яна ня будзе яшчэ рэдкай.

Звычайна, разам з канюшынай сеюць і цімафейку (на 1 пуд канюшыны яе падмешваюць 10 фунт.). Ад гэтага павялічваецца ўраджай травы на другі год карыстаньня, бо цімафейка займае ўсе пустыя месцы паміж канюшны.



Ружовая канюшына.

Насеньне канюшыны і цімафейкі вельмі дробнае, чаму перад севам трэба зьмяшаць яго з зямлёй. Чырвоная канюшына лепш выходзіць і расьце на нізкім полі; яна не баіцца глею і торфу; аднака баіцца нізін з вельмі блізкаю грунтовай вадой. На гэткіх месцах лепш сеяць ружовую, шведзкую канюшыну.

Калі ў год севу канюшыны вясна і лета бываюць вільгатныя, то пасьля жніва яравой пшаніцы і ячменю, канюшына вельмі разрастаецца і яе ў тым-жа годзе косяць на сена. Толькі ня трэба касіць яе нізка, каб ня зрэзаць непасьпеўшае яшчэ ўцягнуцца ў зямлю кароткае сьцябло канюшны. Калі-ж канюшыну хочуць скарміць скацінай, то праганяюць яе праз поле даволі хутка, каб яна толькі зрывала лісьця канюшыны.

Пакуль канюшына маладая, альбо вільгатная ад расы ці дажджу, скаціну пасьвіць трэба вельмі асьцярожна. Першы раз можна пась-

віць ня больш 5 хвілін. Рагатая скаціна *ад перакорму можа захварэць уздуцьцем жывата.* Выпадкі сьмерці вельмі частыя. У коняй такія здарэньні бываюць рэдка.



Валакушка закрываць насеньне канюшыны.

На другую вясну, як толькі пазволіць поле, канюшына баранеуецца ў некалькі сьлядоў накрыж. Баранаваць канюшыну карысна ня толькі ў першую вясну яе самастойнага жыцьця, але і ў наступныя гады.

На сена канюшыну косяць у час поўнага красаваньня (гэта трэба добра памятаць!). Ад такога скосу якасьць сена канюшыны павялічваецца.

Пры сушэньні ня трэба залішне яе турбаваць. Дзеля гэтага пракосы канюшыны не разьбіваюць, а толькі пасьля падсыханьня на сонцы іх варочаюць на другі бок. Акром гэтага, канюшына павінна яшчэ абавязкова выстаяць у копах. Не пралежыўшы дзеньдва ў копах, і добра высушаная канюшына ў гумне ці стозе адыходзіць і робіцца гарачай. Калі канюшына складаецца ў будынку, то яе неабходна перасыпаць сольлю. Дзеля гэтага на 500-600 пуд. канюшыны бяруць 1 пуд солі. Соль засьцерагае канюшыну ад награваньня і робіць яе больш карыснай для скаціны.

Купляць насеньне канюшыны трэба толькі ў коопэтарывах, якія забясьпечваюць усходжасьць насеньня і адсутнасьць шкадлівых траў.

**Агроном Энгельдгардт.**

---

# Здабываньне зялёнага корму ў гаспадарцы.

Кожны гаспадар запасае корм на зіму. Дзеля гэтага ён сее канюшыну, павялічвае плошчу бульбы, а іншы сее і корняплоды.

Нажаль, гаспадары мала забясьпечваюць гаспадарку зяленым кормам на лета.

А між тым, у большасьці мясцовасьцяй жывёла і летам патрабуе корму з рук. Добрага выгану у нас амаль зусім няма, плошча пад імі што-год зьмяншаецца, ды й трава мала спажыўная.

Селянін бачыць, што скаціна не даедае, каровы збаўляюць удоі малака. Трэба паклапаціцца, каб забясьпечыць жывёлу зялёным кормам і летам. Рабіць гэта абавязкова патрэбна.

Добрым і найбольш вядомым зялёным кормам зьяўляецца мяшанка яравой выкі з аўсом. Мяшанку гэту можна сеяць у папары. Глеба пад яе рыхтуецца з восені. Пасьля ўборкі аўсу, за якім звычайна ідзе папар, поле адразу няглыбока аруць і да звычайнага ворыва ўвосень яшчэ некалькі раз баранеюць, каб ачысьціць поле ад травы. Калі ёсьць гной, дык яго возяць і заворваюць ўвосень.

Рана вясной пасьля баранаваньня, а на цяжкіх глінiстых глебах і пасьля другога ворыва, высяваецца аўсяна-выкавая мяшанка.

Але, звычайна, гаспадаркі ўвосень гною ня маюць і тады выработак поля пад мяшанку робіцца гэтак. Ўвосень поле арэцца, ўзімку вывозіцца гной, рана вясною яго раскідваюць і заворваюць.

Засеў робіцца мажліва раней, каб і корм мець, як найраней. Для мяшанкі бярецца 8 пуд. выкі і 4 пуды аўсу на 1 дзесяц.

Пры ручным засеву выка і авёс высяваюцца асобна, бо калі іх зьмяшаць, то засеў будзе няроўны.

Падкашваючы ў меру патрэбы мяшанку, гаспадар забясьпячае жывёлу добрым кормам да паловы ліпеня. К гэтаму часу жывёла ўжо ідзе на сьвежую пашу па сенажаці і йржышчу.

А палове ліпеня застаўшаяся частка мяшанкі здымаецца і поле арэцца пад засеў жыта. У некаторых выпадках аўсяна-выкавай мяшанкаю можна карыстацца і пазьней, але трэба памятаць, што поле арэцца не пазьней, як за 2-3 тыдні да засеву жыта.

Для таго, каб забясьпечыць гаспадарку зялёным кормам і на восень, можна зараз-жа пасьля жніва жыта засяваць яшчэ аўсяна-выкавую мяшанку. Праз 1½ месяцы яе можна ўжо падкашваць і карміць жывёлу.

Таксама можна вясной у зімовае жыта падсяваць сэрадэлю. Пасьля ўборкі збожжа яна дасьць зялёны корм праз 1-1½ месяцы. Высяваюць сэрадэлю рана, у часе баранаваньня зімовага збожжа. Насеньня патрэбна каля 2 п. на 1 дзес.

Дзеля таго-ж, каб мець зялёны корм яшчэ раней, раяць з восені ў папары сеяць мяшанку зімовага жыта з зімовай выкаю. Зімовая выка вырастае хутчэй яравой і ўжо к часу, калі жыта пачынае выплываць, такая мяшанка дае добры корм.

Г. Рэго.

(Горкі, с.-г. І-т.).

---

# Аб бульбе.

„Засеў бульбы дае тры каласы там, дзе раней рос адзін“.

Проф. *Зьм. Праніішнікаў.*

*Чым каштоўна бульба.* 1) З аднае дзесяціны бульба сваім ураджаем дае ў тры разы больш прыбытку, чым з той-жа плошчы можа даць збожжа (жыта, авёс, ячмень).

2) Добрае выпрабленьне поля пад бульбу (ворыва ўвосень і пры пасадцы вясною, баранаваньне, два-тры асыпаньні) найлепш дапамагаюць барацьбе са шкоднымі расьлінамі. Гэта-ж дае мажлівасьць выкарыстаць поле з-пад бульбы замест папару.

3) Бульба не скарыстоўвае поўнасьцю ўгнаеньня глебы і пакідае поле даволі багатым для наступнай лепшай ярыны (ячмень, пшаніца).

4) Бульба пасярод збожжа робіць больш пэўным агульны ўраджай гаспадаркі. Заўважым, што бульбу наогул менш нішчаць розныя шкоднікі і яна паўней скарыстоўвае летнія дажджы.

5) Бульба скарыстоўвае рабочыя рукі сям'і ў больш вольны час ад другіх прац.

6) Бульба павялічвае корм скаціне і зьяўляецца галоўным кормам сьвіньней. Бульба дае матар'ял дзеля бравароў, крухмальных заводаў і г. д.

*Сарты бульбы.* Па тэрміну высьпяваньня сарты бульбы бываюць:

а) раньнія—каля 90 дзён (скорасьпейка, амэрыканка);

б) сярэднія 120 дзён (сіняя);

в) позьнія—180 дзён (сілезія, вольтман, імпэратар Рыхтэр).

Раньнія сарты менш пашыраны. Іх садзяць сяляне больш дзеля ранейшага ўжываньня да *стала* і часткаю для продажу у бліжэйшым горадзе (вёска Патрэба, Масюкоўшчына Менскай акругі). З раньніх сартоў найбольш пашыраны скорасьпейка (раньні ружовы) і амэрыканка. Пераважнае значэньне маюць сярэднія і позьнія сарты. Паміж іх больш пашыраны сілезія, фунтоўка, вольтман (Менская акруга) і імпэратар Рыхтэр. Лепшымі сартамі, як па ўраджайнасьці і якасьці, так і па трываласьці ў хаваньні трэба лічыць сілезію і вольтман.

Цікавы ўраджайныя лічбы сартоў бульбы па досьледу Беларускай аграномічнай станцыі ў 1924 годзе. Дадаю гэтыя лічбы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Скорасьпейка . | 966 п. на 1 дзес. | Мікадо . | 1239 п. на 1 дзес. |
| Вольтман . . | 1000 „ | Фунтоўка. | 1391 „ |
| Сіні Вялікан. . | 1086 „ | Сілезія . | 1465 „ |
| Скорасьпейка сьветларужовая. | 1133 „ | Мэркер . | 1748 „ |

*Месца бульбы ў севазвароце* можа быць розным, а пры трохпольлі яна часьцей бывае ў яравым полі пасьля жыта. Бульбу можна садзіць і ў папары, калі яна не затрымоўвае сяўбы жыта (раньні сорт). Пры далёказямельлі можна раіць для бульбы асобны прысялібны севазварот, які ўжываюць у Нямэччыне: 1) бульба, 2) жыта з падсевам лубіну на ўгнаеньне, 3) бульба і 4) ярына з падсевам сэрадэлі.

Можа быць каштоўным для нас і Норфольскі севазварот: 1) бульба, 2) ярына, 3) канюшына, 4) жыта.

У некаторых выпадках бульбу садзяць на адным месцы на працягу некалькі год, або чаргуюць з яравой пшаніцай ці ячменем.

*Апрацоўка глебы.* Ад поля бульба патрабуе належнай мяккасьці, доступу паветра і ў меру вільгаці. Лепшымі глебамі трэба лічыць супескавыя, добра пагнойныя пескавыя і суглінкавыя. Выраб поля лепш пачынаць з восені. На засьмечаных і суглінкавых глебах лепш зрабіць два ворыва ўвосень. Першае ў 1-1$^1/_2$ вярш. зараз-жа пасьля жніва, а другое на поўную глыбіню ў час звычайнага асеньняга ворыва. Вясною поле баранують і яшчэ раз аруць. На пескавых глебах часта абмяжоўваюцца і адным ворывам вясною.

*Угнаеньне поля пад бульбу* на пескавых і супескавых глебах абавязкова, бо інакш ураджай бульбы будзе малым, а аплата працы дрэннай. Бульба вельмі ўдзячна за ўгнаеньне глебы фосфарам і азотам. Што належыць да калі, то карэньні бульбы на суглінкавых глебах здольны здабываць яго ў большай меры, чым іншыя пажыўныя сокі.

У сялян звычайным угнаеньне пад бульбу зьяўляецца гной. Кладуць яго каля 1200 пуд. на дзесяціну. Угнойваць поле лепш з восені, а на больш пагнойных глебах можна і вясною.

Новазыбкаўская дасьледчая станцыя для ўгнаеньня поля пад бульбу скарыстоўвае лубін, які падсяваюць да жыта ў час яго красаваньня ці сеюць зараз-жа пасьля жніва. Восеньню лубін заворваюць. Ураджаі бульбы пры ўгнаеньні поля лубінам бываюць ня меншымі, чым ад 1200 пуд. гною.

*Пасадка бульбы.* Для насеньня выбіраюць бульбіны сярэдняй вялічыні, калі садзяць іх цэлымі (Слуцкая акруга). У другіх выпадках бульбіны рэжуць на часткі. Гэта робіцца пры нястачы насеньня, або калі глеба мала ўраджайна і бульбу даводзіцца садзіць гусьцей (4-5 вярш.) Рэжуць бульбіны па даўжыні на дзьве часткі. Здараецца часта, што раней яшчэ адрэзваюць пятку бульбіны і ёю карыстаюцца, як кармовым матэрыялам. Другая-ж частка бульбіны (насок), дзе маецца больш вочак, зьяўляецца насеньнем. Здараецца, што і гэту частку сяляне рэжуць яшчэ ўдоўж на дзьве часткі. Пасадка вельмі дробным насеньнем ці малымі часткамі бульбін ня раіцца. На малапагнойных глебах ураджай будзе нязначным. Лепш садзіць радзей, але цэлымі бульбінамі. Цэлыя бульбіны раскладваюцца па баразьне, ці збоку баразны каля пласта ральлі на 8-9 вяршкоў адна ад другой. (Слуцкая акруга).

У мокры год і на сырым полі можна раіць, так званы, паўлітоўскі спосаб пасадкі бульбы. Спаўняецца ён гэтак: вясною поле аруць з адначасовым заворваньнем гною, а далей барануюць. Праз некалькі дзён па роўнаму полю праводзяць рысы і адзначаюць будучыя гранкі значнікам. Гэту прыладу можна пабудаваць вельмі проста. Да 2 вяршковага драўлянога бруска прыстройваюць аглоблі і па ўсёй даўжыні бруска прабіваюць пяць-шэсць дзірак на адлегласьці 8-12 вяршк. (жаданая шырыня паміж гранкамі бульбы). У дзіркі бруска ўстаўляюцца жалезныя або драўляныя палкі, якімі і мецiцца поле пад будучыя гранкі бульбы. Калі поле памечана, то па сьлядох значніка раскладваюць насеньне бульбы, як і па баразьне плуга. Далей бульбіны прысыпаюць асыпнікам праз адну гранку. Гэты спосаб дае мажлівасьць пасадзіць бульбу на ўзроўні паверхні поля, чаму і ў самы мокры год бульба не вымакае. Далей ужо бульбу 2-3 разы асыпаюць у гранкі.

*Час пасадкі бульбы* бывае ў другой палове красавіка. З раньнім засевам бульбы сьпяшацца ня раяць, бо ў выпадку халоднай вясны ўсходы доўгі час ня будуць зьяўляцца і насеньне можа загніць. Некаторыя практычныя гаспадары час пасадкі бульбы адкладваюць да красаваньня груш і яблынь (пэўнае цяпло). Насеньня бульбы на дзесяціну йдзе 80-100 пудоў.

**Сьц. Тупяневіч**

---

# Як Станіслаў Кузьміцкі атрымаў ураджай бульбы 2000 пуд. з дзесяціны.*)

14 кастрычніка 1924 году ў дзень „Сьвята ўраджаю“ у мяст. Чарэя Барысаўскай акругі была с.-г. выстаўка. На гэтай выстаўцы зацікавіў усіх экспонат бульбы, якую прынёс Станіслаў Кузьміцкі (грам. хут. Залужжа I, Вяцерскай сельрады). Старому 60 год, але ён бадзёры і весела тлумачыць усім, як ён атрымаў такі вялікі ўраджай бульбы. Асабліва цікава яго тлумачэньне аб тым, як ён гадаваў гэту бульбу; аб гэтым Кузьміцкі сам злажыў у доўгім артыкулу.

Ня маючы магчымасьці надрукаваць артыкул поўнасьцю, цікава ўзяць з яго кароткія вытрымкі, дзе ён тлумачыць, што і як рабіў. Вось што піша Кузьміцкі:

*) Рэдакцыя. Папера С. Кузьміцкага знойдзена ў матар'ялах Чарэйскага вучастковага агронома Барысаўскай акругі. Зрабіў вытрымкі і падаў агрон. М. Лайкоў.

### Як садзіць бульбу.

„Я садзіў бульбу чуць большую ад курынага яйца, у якой было шмат вочак і чуць наклюнуўшуюся. Садзіў у боразны, зробленыя асыпнікам, які пазычыў у суседа за 2 вярсты. Садзіў рэдка, на 14 вярш. адну бульбіну ад другой. Бульбы было пасаджана 15 пуд., з якіх 2 пуды носікаў. Каб ураджай быў лепшым і каб ня было шкоднікаў на бульбе, я гранкі пасыпаў попелам і зараз-жа асыпнікам закрыў пасаджаную бульбу. Бульба не магла баяцца дажджу, бо барозны ад асыпкі былі глыбей пасаджанага насеньня“.

### Як даглядаць за бульбай.

„У той час, калі бульбе была пара абыйсцы, а яна не паказвалася, то яе прыскарадзілі граблямі па стрыжню гранкі. На другі дзень бульба ўся паказалася з зямлі і ўсьміхался мне, гэта значыць, як быццам, дзякавала за тое, што ёй прадраў вочы.

Калі бульба вырасла ў пядзю, яна была асыпана матыкай і паганяна сахою. Дзён за 8 да красаваньня была зноў асыпана і абагнана асыпнікам. Пад канец красаваньня бульба ў трэці раз была абагнана. Калі бацьвіньне стала падсыхаць, то дзеці яго зжалі і развесілі снапамі на жэрдкі“.

### Капаньне бульбы.

„Капаў бульбу 24 верасьня па новаму стылю, што лічу рана, але-ж баяўся марозаў,хаця бульба і была добра асыпана. Зазначу, што бульбу капаю я лапатаю. Парэжу зямлю, адступіўшы трохі ад гнязда, глыбінёю вяршкоў на 8, павярну лапату ўніз і ўправа і вывярну, як корч на лядзе. Работа вясёлая; дзеці рады выбіраць яе і лічуць, колькі штук урадзілася пад адным кустом. Тут і ракам не стаіш увесь дзень, ня рыешся, як крот, дзе трэба і ня трэба, а зразу чыста выкопваеш. Застаецца толькі праскародзіць поле, каб зараўняць ямкі.“

### Ураджай бульбы.

„Калі выбіралі бульбу, то мералі яе пудавым кашом. Бульбы было 207 пуд. На выстаўку прывёз самую буйную, якой было 80 пуд., а рэшта—100 п. сярэдняе і 27 кашоў дробнай. Прымаю пад увагу, што з 15 ліпеня па 25 верасьня штодзенна выкопваў на хатнія патрэбы; значыцца, яшчэ 70 п., ды прадаў у мяст. Чарэя 18 пуд. Такім чынам, па майму падліку ўсей бульбы зарадзіла з 15 пуд.—295 п. (значыць, на дзесяціну 2000 пуд.“).

### Як можна з аднаго вала дзьве скуры драць.

„Але бульба была пасаджана ў мяне не адна, а між ёй быў і боб. Садзіў яго па 1 зярняці паміж бульбай. Разам з бульбай яго матычыў і асыпаў. Боб пасьпеў раней бульбы. Бобу садзіў 5 фунт., а атрымаў каля двух пудоў“.

### Парада малазямельным сялянам.

„Прызнацца, ня думаў, што прыдзецца паказваць сваю бульбу на выстаўцы, ды прымусіла наша сельрада; каб я быў настаяшчы гаспадар, а то ўсёй зямлі ў мяне 1½ дзес., хаця і хутарам. У мінулым годзе бульба у мяне был лепшай, але чым богат—тым і рад. Я шмат бачыў у нашым раёне дрэннай бульбы, дык раю ўсім грамадзянам,

у каго мала зямелькі, зьвярнуць увагу на бульбу. Яна выручыць і сям'ю, і скацінку ад голаду. У мяне круглы год бульбы ўволю і я ня ведаў голаду ў самыя цяжкія часы. Бульбу сей, ды не загушчай і часьцей асыпай, а яна ўзнагародзіць за працу сваім ураджаем.

Усё пішу праўду, што і сьведчыць сельрада. Хто не дае веры, то прашу да мяне і вы там пабачаце, як яна—красавіца сядзіць і усьміхаецца. Але пэўна вы і самі ведаеце, што ўсё мною напісанае верна, пры чым і падпісваюся. **Станіслаў Кузьміцкі.**"

---

# Што дало шматпольле Хомку Зеляпуга.

Усёй зямлі ў Хомкі Зеляпуга $6^1/_2$ дзес., з якой пахаці 5 дз. На гэтай зямлі ён трымае дзьве каровы, адну цялушку, двое коняй і сена яшчэ застаецца. Скаціна мае добры выгляд і поўнасьцю забясьпечвае гаспадарку гноем. Раней, разам з братам Хомка меў 12 дзес. і на ўсё гэта трымалася 2 каровы і двое коняй, а корму ставала толькі да паловы лютага. Цяпер-жа як бачым, адзін Хомка мае 5 галоў жывёлы, ды брат на $4^1/_2$ дзес. мае яшчэ 3 галавы (разам 8 галоў). У чым жа справа?

Побач з Зеляпугам жыве Язэп Дашкевіч, які мае 40 дзес. зямлі і на гэтым трымае толькі 5-6 кароў і пару коняй, а заве Хомку Зеляпугу „кулаком".

Брат Хомкі раней меў такі-ж севазварот, але за час вайны закінуў яго і жыве цяпер горш, чым Хомка. Значыць, дабрабыт Хомкі залежыць выключна ад правіловай і разумнай пабудовы гаспадаркі.

У 1913 годзе Хомка з дапамогай агронома завёў 8-мі польле: 1) угноены і заняты выкаю папар, 2) жыта з падсевам канюшыны, 3) і 4) канюшына на скос (два ўкосы на год), 5) канюшына на выпас і частка пад засеў лёну, 6) жыта па гною, 7) бульба, 8) ярына.

Дзякуючы таму, што ў дз. Хомкі толькі адно поле ($^5/_8$ дзес.) пад ярыною, частку ярыны ён пераносіць на другое пале (гарох і выку ў папар, а полбу і частку ячменю ў поле бульбы).

Ураджай жыта бывае коля 80-90 пуд. на дзесяціну, а пасьля занятага папару 60-70 пуд.

Вельмі цікавы штогоднія назіраньні Хомкі, што ўраджай жыта пасьля лёну не адрозьніваецца ад жыта пасьля канюшыны. Лён Хомка сее вельмі рана, чаму і поле аслабаняецца раней, чым з-пад жыта.

Калі я разам з гаспадаром стаў падлічваць увесь ураджай 1924 г. з 5 дзес., то па сярэднім зімовым цэнам мы атрымалі такія лічбы:

| Назва культуры. | Колькі пудоў сабрана. | Цана аднаго пуда | | Колькі каштуе ўвесь ураджай | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| Жыта (зярно) . . . . . | 130 | — | 80 | 104 | — |
| Авёс „ . . . . . | 50 | — | 60 | 30 | — |
| Ячмень „ . . . . . | 50 | — | 70 | 35 | — |
| Бульба . . . . . | 400 | — | 25 | 100 | — |
| Канюшына . . . . . | 750 | — | 30 | 225 | — |

| Назва культуры. | Колькі пудоў сабрана. | Цана аднаго пуда. | | Колькі каштуе ўвесь ураджай. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| Выка (сена) . . . . | 100 | — | 25 | 25 | — |
| Выка насеньне . . . | 40 | — | 80 | 32 | — |
| Лён (кудзеля) . . . . | 5 | 5 | — | 25 | — |
| Лён (насен.) . . . . | 5 | 1 | 50 | 7 | 50 |
| Гарох . . . . . | 20 | — | 80 | 16 | — |
| Полба . . . . . | 5 | — | 80 | 4 | — |
| Ярав. саломы . . . . | 300 | — | 10 | 30 | — |
| Жытн. саломы . . . | 200 | — | 10 | 20 | — |
| Лугав. сена . . . . | 150 | — | 25 | 7 | 50 |
| Кошт усяго ўраджаю гаспадаркі. | — | — | — | 691 | — |
| Ураджай палявой гаспадаркі . | — | — | — | 653 | 50 |

Лёгка падлічыць, што 1 дзес. паха і дае штогодна на 132 руб. 50 кап. ураджаю (653 руб. 50 кап. на 5 дзес.) Дзе пры трохпалёўцы можна найсьці хоць палову такого даходу?

Хомка Зеляпуга з вялікай ахвотай прыслухоўваўся да мае гутаркі і на апошнія грошы, якія у той час меў у кішэні, купіў тры кніжкі часопісі „Плуг“. Зараз-жа, прачытаўшы артыкул аб сэрадэлі, абяцаў з гэтага году пачаць яе сеяць.

На будучыну Хомка глядзіць бадзёра. Далей мае замер перайсьці да корму жывёлы і летам у хлеве (канюшынай і выкава— ўсянай мяшанкай летам, а восеньню сэрадэляй).

**М. Лайкоў.**

---

# Чым угнойваць поле, калі нястача гною.

**(Мінэральныя ўгнаеньні).**

Кожная расьліна для свайго росту і добрага ўраджаю бярэ з зямлі пажыўныя сокі галоўным чынам. *азот*, *фосфар і калі.* Розныя расьліны патрабуюць у рознай меры адны і тыя-ж пажыўныя сокі. Напрыклад, для пшаніцы патрэбен у першую чаргу *азот*, канюшыне—*фосфар*; бульбе, грэчцы—*калі.*

Пераліčаных пажыўных сокаў у глебе часта мала, за гэтым гаспадаром трэба клапаціцца аб угнаеньні глебы штучнымі спосабамі. Пры ўгнаеньні-ж поля гноем, мы адразу павялічваем у глебе запасы азота, фосфара і калі. Але сяляне часта скардзяцца, што гною ў гаспадарцы мала. У такіх выпадках шмат чаму могуць дапамагаць мінэральныя ўгнаеньні. Сярод іх назавем—

*Чылійскую салітру (азот).* Гэта шэрая соль, добра раскладаецца ў вадзе. Здабываюць яе ў горах Чылі (Амэрыка), адкуль яна перавозіцца морам у Заходнюю Эўропу, а далей чыгункаю да нас. Дарога вялікая, таму і цана на яе высокая—2 р. 50 к. пуд. Раіцца ўжываць

гэта ўгнаеньне пераважна пад каштоўныя расьліны (пшаніца, гародніна, буракі). Чылійская салітра добра правіць і зімовае збожжа, калі рана вясною рассыпаць яе па полю пуды 2 на дзесяціну. Дажджом крышталы гэтай солі распушчаюцца і ў такім выглядзе дасягаюць маладых карэньняў збожжа.

*Суперфосфат (фосфар).* Шэры парашок з задушлівым пахам. Супэрфосфат раскладаецца ў вадзе ня так хутка, як чылійская салітра, чаму рассяваюць яго па полі за 1-2 тыдні да севу збожжа. Колькасьць угнаеньня розьніцца ад 12 да 24 пуд. на дзесяціну. Найлепшы ўплыў на ўраджай збожжа супэрфосфат робіць на шчыльных суглінках. Лепш ужываць супэрфосфат пад жыта, авёс, канюшіну, а сярод гародніны—пад капусту. Каштуе 1 пуд. супэрфосфату 70-80 кап.



Сяўнік высяваць парашкі на ўгнаеньне.

*Тамасшлак (фосфар).* Цёмна-шэры парашок яшчэ менш раскладаецца у вадзе, чым супэрфосфат. Уплыў на расьліны прымецен на працягу 2-3 год. Высяваюць яго ў ціхую пагоду (лепш зьмешваць з сухім пяском). Прыкрываюць злёгку бараною. На десяціну бярецца 18-36 пуд. парашку. Каштуе ён 60-70 кап. пуд.

Найлепш ужываць тамасшлак на лёгкіх супескавых і пескавых глебах пад жыта, авёс і гародныя расьліны.

*Фосфарытавая мука.* (*фосфар*) робіць вельмі добры ўплыў на староворaным полі і падзолах. Угнаеньне бярэццца ў значным ліку—36-70 пуд. на дзесяціну. Высяваць фосфарытую муку патрэбна, як найраней, і далей заараць яе на 2-3 вярш. глыбыні. Каштуе 1 пуд. угнаеньня 40 к.

*Каініт* (*калі*). Гэта соль вельмі падобна да звычайнай спажыўнай людзьмі солі. Высяваецца на дзесяціну солі 18-36 пуд. пад першае ворыва. Лепшы ўплыў на лёгкіх супескавых глебах. Часьцей ужываюць каініт, як угнаеньне, пад лён, бульбу, канюшыну і для ўгнаеньня сенажацяй.

*Калійная соль* (*калі*). Гэта ўгнаеньне падобна да каініту, (у дробных крышталях), але лепш ракладаецца ў вадзе. Ужываецца калійная соль, як угнаеньне, на больш шчыльных суглінках і добра аплачваецца лёнам, бульбаю, ячменем, канюшынай і інш. Высяваецца за 2 тыдні да засеву збожжа і далей заворваецца ці прыкрываецца зьлёгку бараною. На дзесяціну патрэбна 6-9 пуд. угнаеньня.

*Попел* (*калі, вапна, фосфар*). Попел належыць зьбіраць і хаваць у крытым памяшканьні. Трымаць найлепш попел у асобных скрынках. На дзесяціну патрэбна каля 40 пуд., а можна і больш. Добры ўплыў робіць попел на пескавых глебах, а гэтак-жа на лёгкіх суглінках і супеках. Найбольш удзячны за попел бульба, кораняплоды, лён канюшына, гародніна, і сенажаці.

Пад зімовыя засевы попел лепш рассейваць перад ворывам папару, а пад ярыну тыдні за 2 да севу.

**М. Еўдакімаў.**

# Вапна як угнаеньне.

Ужо з даўных часоў вучоныя зьвярталі вялікую ўвагу на ўгнаеньне поля вапнай. Да нашых дзён гэтае пытаньне не пакідае агрономічную думку, як па ўсім СССР, так і заграніцай. Дзесяткі год на дасьледчых станцыях ставяцца досьледы па вапнаваньню глебы. Нарэшце гэтае пытаньне больш-менш вырашана і іменна ў тым напрамку, што вапна зьяўляецца неабходным угнаеньнем разам з другімі патрэбнымі для расьліны пажыўнымі солямі. Для здаровага разьвіцьця расьліны, як вядома, патрэбен *фосфар*, *азот*, *калі* і інш. солі. У шэрагу гэтых соляй патрэбна і вапна.

У некаторых мясцох сельска-гаспадарчай Беларусі можна знаходзіць цэлыя залежы гэтага вельмі каштоўнага ўгнаеньня—вапны. Зразумелая рэч, што яго неабходна выкарыстаць у практыцы сялянскай гаспадаркі.

Гаворачы аб карысьці вапны, трэба зазначыць, што *яна патрэбна ральлі ня толькі, як складная частка каштоўных для расьліны соляй, а нават і для таго, каб інш. патрэбныя расьліне солі прымалі такія формы, з якіх расьліна магла-б іх лёгка браць.* Другое, вапна зьвязвае гэтыя солі і *засьцярагае іх ад вымываньня* праходзячаю вадою ў глыбокія слаі *глебы.*

Вапна адпавядае гэтаму прызначэньню. Загэтым, *яе каштоўнасьць* у сельскай гаспадарцы, *як угнаеньня, нязвычайна вялікая.*

Асабліва каштоўна вапна на нашых падзолістых глебах. А падзолістай завецца тая глеба, з якой вымыты солі кальцыя і інш. Гэткія глебы вельмі бедны пажыўнымі для расьліны солямі і на выгляд маюць бела-шэраваты колер. Вось на падзолах як-раз вапна (кальцы) і лічыцца найлепшым сродкам дзеля паляпшэньня глебы.

Вапна паляпшае пабудову глебы, павялічвае яе вязкасьць і такім чынам зьвяртае ёй добрыя якасьці. Ад вапны вораны слой прымае, так званую, глыбкавую пабудову і становіцца больш ліпкім, гуртуючы вакол сябе каштоўныя солі *калі*, як і іншыя солі і ахоўвае іх ад вымываньня ў глыбокія слаі глебы праходзячай вадою.

Шматгадовыя досьледы даводзяць, што бабовыя расьліны і асабліва лубін ня любяць вапнаваньня: лубін хварэе *хлорозамі* (пажаўценьне лісьця). Але некаторыя досьледы вапнаваньня пад лубін дазваляюць думаць, што гэта апаска для беларускіх умоў ня мае значэньне. Аднака, можна сказаць з пэўнасьцю, што вапнаваньне карысна ня толькі пад жыта, пшаніцу і авёс, але нават пад бульбу, корняплоды, выку, сэрадэлю, канюшыну і пялюшку.

Можна раіць спосаб вапнаваньня такі: сьвежа-гашаную вапну перамяшаць з сухім торфам. Мяшаніну гэту можна зрабіць на полі ў прасохшых кучах торфу. Пры сухой пагодзе ўсё раськідаць па полі і заараць (раяць чым глыбей). Карысьць ад вапнаваньня бязумоўная. На суглінкавых, глінiстых глебах і балотах раяць класьці чыстую, сьвежагашаную і добра перапаленую вапну ў форме дробнага парашку.

Там, дзе кладуць вапну бяз прымешкі торфу, яе перамешваюць з сыраватым пяском, каб раўней раськідаць па полі і не даваць ёй пылець, бо інакш, папаўшы ў рот ці на твар чалавеку, вапна можа быць шкоднай.

**Алесь Дзямідовіч.**

(Горкі, с.-г. І-т).

# САД і ГАРОД

## Як вырасьціць капусту.

Па часу свайго пасьпяваньня капусту можна падзяліць на раньнюю і позьнюю, а па колеру лісьця на бела-качанную і чырвона-качанную. Самым лепшым з позьніх сартоў капусты лічыцца Брауншвэйгская, якая заўсёды дае добры ўраджай. Яна дае вялікія і плоскія качаны добрага смаку і якасьці. Гэты сорт капусты йдзе на квашаньне.

З раньніх сартоў лепшымі трэба лічыць скорасьпейку, раньнюю сэрцападобную, цукровую галаву і інш.

Для выганкі добрай капусты *трэба мець і добрую расаду*. Засеў расады патрэбна рабіць у пачатку красавіка. Калі насеньне капусты дасьць усходы, то ня раіцца трымаць іх доўгі час у расадніку, дзе бывае сырасьць. Пры густых усходах у гэтым выпадку сьцябло расады можа пачарнець і адзервянець. Карысьці ад такой расады зусім мала. Лепш над усё, калі расьлінкі капусты (расады) будуць знаходзіцца адна ад другой на $^3/_4$-$1^1/_4$ вярш. Дасягаюць гэтага ці прарываньнем маладой расады, ці перасадкай яе на другую граду.

*На грады ці грунт капусная расада* садзіцца ў другой палове мая. Садзіць яе лепш над усё вечарам ці ў хмарны дзень. Інакш расада капусты можа завянуць, папаўшы пад промені сонца. Раньнія сарты капусты садзяць на $^3/_4$ арш. адну расьліну ад другой, а позьнія—каля $1^1/_4$ аршына.

Калі гарод знаходзіцца на нізкім месцы, то пад капусту робяцца звычайныя грады. Ува ўсіх іншых выпадках капусту з пасьпехам можна садзіць і бяз град на добра выробленым і ўгноеным гародзе.

Капуста лепш над усё ўдаецца на глініста-перагнойнай зямлі, добра трымаючай вільгаць. Другое, пад капусту патрэбна вельмі багата ўгнаеньня. Калі здараецпа, што гарод мае пескавую зямлю, то першыя два-тры гады, пакуль зямля ня будзе добра ўпагноена, грады капусты добра ўкрываць якім-небудзь прыценьваючым угнаеньнем.

Калі капусту садзяць па сьвежаму гною, то яго неабходна класьці з восені ці рана вясною, каб да пасадкі капусты гной пасьпеў перапрэць. Калі здараецца, што гарод пад капусту *ўгноен перад самай пасадкай, то капуста дае вельмі шмат зялёных лісьцяў*, але *малыя качаны.*

*На адну дзесяціну патрэбна каля 2500 пуд. гною.*

Глеба пад капусту арэцца з восені на глыбіню ня менш 4-5 вяршк. Вясною гарод яшчэ раз пераворваецца і гатуецца да пасадкі капусты. (Робяцца грады; ці па баранаванаму полю значнікам вызначаюцца месцы для кожнае расьліны).



*Догляд* за *пасаджанай капустай складаецца* з *паліўкі*, *поліва* і *асыпаньня*. Прыблізна цераз месяц пасьля пасадкі, калі расьліны капусты дасягаюць 3-4 вярш., спаўняецца першае асыпаньне. Тыдні праз тры пасьля першага робіцца другое асыпаньне; асыпкаю зямля падымаецца да самых лісьцяў капусты.

Праз увесь час росту капусты неабходна весьці барацьбу з рознымі шкоднікамі капусты (вусені), якія могуць зьніжаць а то й зусім зьнішчыць ураджай.

**У. Казюка.**

---

# Сеў гуркоў.

Гуркі прывезены да нас з цёплай краіны—Індыі, чым і тлумачыцца патрабаваньне імі цяпла і вільгаці. Насеньне гуркоў пачынае прарастаць пры 15° цяпла, а ўсходы ня зносяць і лёгкіх прымаразкаў; апрача таго, нават мокрая пагода пры 2-3° цяпла можа пашкодзіць усходам. Усё гэта прымушае быць асьцярожным у выбары часу засева. Звычайна, вопытныя гароднікі высяваюць гуркі ў 2-3 тэрміны. Пачынаюць сеяць гуркі толькі пасьля таго, як зямля добра сагрэецца, а прымаразкі зьнікаюць, што ў нашых варунках бывае ў канцы траўня. Сеюць гуркі сухім, мокрым ці прарасчаным насеньнем. У двох апошніх выпадках неабходна добра змачыць зямлю перад засевам гуркоў і паліваць грады да часу зьяўленьня ўсходаў. Інакш пры недастачы вільгаці маладыя расьліны могуць лёгка загінуць. Прарасчваюць насеньне на працягу сутак, а затым кладуць у мокры пясок альбо апілкі і ставяць у цёплым месцы. Калі цяпла даволі, насеньне прарасьце ў працягу 1-2 дзён. Пазьніцца з высевам прарасчанага насеньня ня раіцца.

Калі маецца на мэце раньняе атрыманьне гуркоў, дык для засеву можна прырыхтаваць расаду (у хаце, парніку, расадніку) так, каб можна было высадзіць яе на грады, як настане пэўнае цяпло (зьявяцца лісьця на дрэвах).

Насеньне для засеву лепш браць ад ураджаю 2-га ці 3-га году (будзе менш пустацьвету). Сеяць гуркі трэба на мясцох, дзе добра грэе сонца, на хібох („грэбнях") град у поўарш. шырыні і 2-3 вярш. вышыні. Некаторыя гаспадары сеюць гуркі па сьвежаму перапрэламу гною, але пад гуркі лепш выбіраць поле, дзе ўгноеньне было ў мінулым годзе. Робіцца засеў гуркоў і па баразнах упоперак грады (баразна ад баразны ў поўарш.). Тады косы гуркоў не закрываюць баразён паміж град і ня топчуцца. У кожную баразёнку насеньне высяваецца па 2-3 зярняткі на адлегласьці 2 вярш. Пасьля ўсходу насеньня маладыя расьлінкі гуркоў прарываюць пакідаючы, адно ад другога на 4-6 вярш.

У прамысловых гародах гуркі часта сеюць разам з капустай. Зямля пры такім спосабе выкарыстоўваецца лепш, але догляд абходзіцца даражэй.

Догляд за гуркамі складае асыпаньне, паліўка, матычаньне і поліва. Трэба памятаць, што зямля пад гуркамі, як і пад другімі гароднымі расьлінамі, павінна быць увесь час рыхлай і чыстай ад травы. Паліўка гуркоў необходна, бо бяз гэтага бывае шмат пустацьвету.

Адрастаючыя косы гуркоў нельга турбаваць, бо яны з пазух лісьцяў пускаюць дадатковыя карэньні, якімі чапляюцца за зямлю. З тэй-жа прычыны і матычыць іх трэба вельмі асьцярожна. Гуркі—плады па меры ўзросту выбіраюць, не даючы ім высьпяваць, бо ад гэтага расьліна слабее і дае меншы ўраджай.

Сярэдні ўраджай з грады ў 10 кв. саж.—1000 штук. Насеньня на гэткую граду патрэбна каля 2-х лотаў.

**І. Пушкароў.**

---

# Трывалыя і даходныя гатункі яблынь па Віцебскай і Магілеўскай акругах.

Выбар гатункаў пладавых дрэў зьяўляецца даволі цяжкай і важнай задачай у нашым садоўніцтве. Сялянам, якія закладаюць маладыя сады, трэба выбіраць вельмі асьцярожна той ці іншы гатунак дрэва. Галоўным чынам трэба зьвяртаць увагу на падвой, каб ён быў цьвёрды і каб на ім магла разьвівацца карона. Найлепшымі будуць дзічкі лясной дзікай яблыні, а ўжо за імі йдуць Сібірка і Кітайка (у якіх добра разьвіваецца карэньне). Каб атрымаць гэткі на цьвёрдым падвоі матэрыял, трэба зьвяртацца за ім у добра вядомыя школкі пладовых дрэў, але ніколі ня можна купляць прышчэпы на кірмашы. Вельмі трывалых, цьвёрдых гатункаў падвою ў нас мала, а калі зрабіць яшчэ памылку ў выбары, то ўсё гэта можа прывесьці да раньняга выміраньня саду. Гатункі дрэва трэба выбіраць гэткія, каб яны не ламаліся ад ветру, не баяліся марозаў і грыбных хвароб.

Задача пладаводзтва знаходзіцца ў тым, каб даваць столькі пладоў, якія-б не пераводзіліся круглы год. У нас-жа гэтага няма: яблыкі ёсьць толькі ўлетку і ўвосень, а зімою сустракаюцца як рэдкасьць, чаму ад садоў няма і прыбытку.

Прамысловыя сады добра мець недалёка ад гораду ці другога месца, дзе ёсьць збыт яблык.

З нагляданьняў Горацкай паказальнай садовай станцыі выяўлена, што з зімовых гатункаў лепшымі па Ўсходняй Беларусі лічацца *антонаўка камянічка*, *антонаўка белая*, *бабушкіна* і *пэпін літоўскі*, (астатні гатунак расьце на поўдзень ад Аршанскае акругі).

У памалагічным садзе Горацкага Інстытуту за 20 год антонаўкі выпалі на 7,5 проц., хворых 5 проц. Невялікі процант загінуўшых і вялікі процант здаровых дрэў антонаўкі гавораць за тое, што гэты гатунак вельмі каштоўны для нас. Яго трываласьць, доўгалетнасьць (больш 60 год), а гэтак-жа і якасьць пладоў здавальняюць усім вымаганьням плодаводзтва.

З асеньніх гатункаў лічацца найлепшымі *харламаўка*, *трэйфлінг*, *пуцімка* і *манастырка*. Вялікі процант хворых дае апорт і цітаўка. Астатняя хварэе ад марозу і рака, чаму гэтыя два гатункі садзіць ня раіцца.

З летных гатункаў найлепшымі будуць *Пынамонава паласастае* (лепшае для конфітуры), *наліў белы* і *ружовае*, на якое трэба зьярв-

нуць асаблівую ўвагу. Яно дае 95 проц. моцных дрэў. Па разьвіцьцю кароны і вельмі ўдалым пладам, яно лічыцца на першым месцы ў Горацкім помалагічным садзе.

Вядомы садавод Мароз (Бачэйкаўскага раёну) на падставе шматгадовае практыкі раіць гэткія гатункі: *антонаўка з яе каштоўнымі адменамі, як чорнагуз і бабушкіна;* васеньнія гатункі—*штрэйфлінг* і *цукровае літоўскае.*

Грушы ён раіць гэткіх гатункаў: *александраўка, Магдалена паласатая і Дуня астзэйская.*

Сьлівы—*ранклёд зялёны, белая мясцовая, вянгерка цукровая, вянгерка раньняя* і *эсьлінгер.*

**Ф. Старавойтаў.**

(Студ. Горацкага с.-г. І-ту).

---

# Як захавацЬ вільгацЬ глебы.

Калі вясна сухая, а дажджы бываюць рэдка, то патрэбна вельмі пільная ўвага за вільгацьцю глебы.

На перасохшым полі рост расьлін затрымоўваецца, а часта і зусім спыняецца да першага дажджу. Па другое-ж, запасам вады ў глебе вызначаецца нават ураджай нашых расьлін, бо вядома, што на кожны пуд сухога ўраджаю расьліна павінна прапусьціць праз свае карэньні ад 300 да 800 пуд. вады. Гэта вада павінна знаходзіцца ў глебе.

Проф. Даярэнка падлічыў, што калі-б захаваць усе гадавыя ападкі (ваду, сьнег і дождж), то найбольшы ўраджай можна было-б атрымаць каля 270 пуд. збожжа на дзесяціну. (*На Дасьледчым полі Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі ў 1922 г. ураджай жыта быў 257 пуд. на дзесяціну*).

Для захаваньня вільгаці ў глебе неабходна падтрыманьне яе паверхні ў рыхлым стане. Вось чаму зараз-жа пасьля ворыва ў такіх выпадках поле патрэбна баранаваць, бо вялікія глыбы ворыва абвяваюцца ветрам і хутка трацяць вільгаць.

Асабліва-ж сьцерагчы вільгаць трэба на полі, дзе расьце бульба, буракі і там, дзе поле кінута ў папар ці пад засеў лёну або грэчкі.

---

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

## Які конь патрэбен нашаму гаспадару.

Умовы с.-г. жыцьця Беларусі зрабілі свой уплыў нават на нашага каня. Ён маленькі, слабасільны і тугарослы.

Цяпер, калі мы пачынаем сваю працу ў сельскай гаспадарцы над паляпшэньнем жывёлагадоўлі, наш селянін ужо сам зацікаўлен і ў паляпшэньні свайго каня. Але кожны гаспадар па рознаму гэта разумее. Адзін шукае каня ардэна, другі палепшанага мясцовага, трэці з крывёю рысака, а то і чыстага ангельскага рысака. Больш усяго на Беларусі мы бачым палепшаных коняй крывёю ардэнаў ці з прымешкаю іх крывы. Але гэта ўсё тып важкага каня. Распаўсюджваўся ў нас ардэн з Нямеччыны і сваёю магутнасьцю зацікавіў селяніна. Аднака, гэтым канём найбольш карыстаўся горад дзеля перавозкі цяжараў па бруку. Ардэна лёгка ўтрымаць у целе; ён моцны, здатны да возу. Вось галоўныя прычыны, па якім да гэтага часу захаваўся у нас ардэн, хоць і ня чыстага гатунку.

Калі ж паглядзець на ардэна ў ўмовах нашае гаспадаркі, то пры пескавых ці гразкіх дарогах, вялікай вазе каня і значнай патрэбе яму корму, для нашых умоў ён ня зусім прыгодны.

Нашаму селяніну патрэбен конь, на якім можна было-б працаваць на полі і паехаць у горад, ды каб і зімою ня зьмерзнуць у дарозе. Наш жа мясцовы беларускі конь мае такія адзнакі, што заслугоўвае ўвагі. Ён вельмі трывалы, а дзеля гэтага нашага каня трэба скарыстаць паляпшэньнем яго другім канём чыстай крыві. Я лічу, што паляпшаць трэба толькі *арлоўскім рысаком*. Такім чынам, палепшаны наш конь будзе моцны, трывалы і здольны, як да бегу, так і да воза. Гэтак-жа ён ня будзе вельмі багата патрабаваць корму, а ў працы на полі будзе адпавядаць усім патрэбам селяніна-гаспадара. Трэба каб усе Акруговыя Зямельныя Аддзелы здабывалі на злучныя пункты жарабкоў з пароды *арлоўскіх* рысакоў. Разам з гэтым трэба зьвярнуць увагу на паляпшэньне нашых хлявоў, чыстку коняй, а гэтакжа на засеў канюшыны і г. д.

**Райаграном П. Сяргейчык.**

# Як адвучыць карову, каб яна сябе не выдойвала.

У вёсцы Малыя Шарыпы Горацкага раёну, Аршанскае акругі пры дасьледваньні жывёлы з 100 кароў я знашоў тры, якія былі вельмі малочнымі, але самі сябе выдойвалі.

Для барацьбы з гэтым шкодным ласаваньнем гаспадары надзявалі карове аброць, у намызьнік якой набівалі жалезныя цьвікі (мал. № 1.) Калі карова падносіла морду да вымя, то цьвікі калолі яго і не давалі ёй выдойваць. Але гэта было нядоўга. Скора карова ўхітралася падкладваць галаву бокам і даставала вымя. А падчас было й так, што карова раніла цьвікамі вымя, а ня кідала гэтага звычаю. Як бачым, гэты спосаб барацьбы з самавыдойваньнем каровы няпэўны.



Мал. 1. Карова з намызнікам.

У Даніі такой карове падвязваюць звычайную палку адным канцом к папрузе за пярэднімі нагамі, а другім к аброці (мал. № 2). Гэты спосаб хаця і добры, але тут патрэбна папруга. Карыстацца-ж вяроўкаю замест папругі дрэнна, бо каровы абшморгваюць сабе скуру. Апрача таго, карове з палкаю дрэнна пасьвіцца ў лесе, або стаяць у загарадзі: яна можа чапляцца палкаю і параніць сябе.



Мал. 2. Карова з палкаю.

Мне здаецца, самы лепшы спосаб адвучыць карову ад выдойваньня сябе, гэта зрабіць ёй на шыю хамут, які-б не дазваляў ёй падгібаць галаву пад вымя. (мал. № 3). Хамут гэты робіцца так: бяруцца два абручы (адзін большы, другі меншы) і надзяваюцца на шыю; пры чым меншы абруч павінен быць каля самай галавы. У



Мал. 3. Карова з хамутом.

абручох загадзя робяцца дзіркі, ў якія ўстаўляюцца палкі (па дзьве з кожнага боку). Усё гэта замацоўваецца. Таўшчынёю абручы і ўсе палкі павінны быць каля 1-1½ цалі, каб карова не магла зламаць. Уся прылада не мяшае карове скубці траву, хадзіць па лесе ці стаяць у загарадзі. Гэту прыладу можа зрабіць кожны гаспадар.

З хамутом карова павінна хадзіць 1-2 месяцы, пакуль не адвыкне сама сябе выдойваць.

С. Журык.

(Горкі, с.-г. І-т).

## Падкорм скаціны вясною.

Скаціна вясною выганяецца на пашу худой, чаму яна ня скора і раздойваецца. Бывае і так, што каровы на пашы ў першыя дні даюць нават менш малака, чым стоячы ў хлеве. Гэта залежыць ад таго, што трава лёгка страўляецца і перш ідзе на папраўку цела худой каровы. Часта зьмяншэньне ўдою бывае і ад няўмелага пераходу ад зімовага харчаваньня кароў на летняе.

Каб ня было гэтага зьмяншэньня ўдою, асабліва ў тых кароў, якія цяліліся пасьля новага году, трэба выпускаць іх на пашу тады, калі ўжо трава падрасла на 2-3 вяршкі.

Пераход на пашу павінен быць праведзен на працягу 1-1½ тыдняў. Калі гэтага ня трымацца, а выпускаць кароў на траву адразу на цэлы дзень, то яны могуць захварэць праносам ці ўздуцьцем жывата. Вельмі шмат хварэе кароў тады, калі яны пасуцца першыя дні ў дождж.

Каб каровы не хварэлі і ня зьніжалі ўдою, трэба ў першыя дні пашы кароў карміць іх так, як і зімою. Выпускаць кароў на пашу ў *першыя 3 дні трэба на 1-2 гадзіны* і перад гэтым іх накарміўшы у хлеве. На 4 дзень норму корма можна зьменшыць. *На 4-6 дзень можна выганяць кароў на пашу гадзіны на 4-5*, на 7-10 дзень—на 8-10 гадзін.

Вядома, з павялічэньнем часу пасьбы скаціны трэба зьмяншаць і падкормку. На 14-15 дзень, калі паша добрая, падкормліваць ужо ня трэба. Але добрай пашы ў сялян амаль-што няма, чаму падкормку трэба даваць каровам кожны дзень, як вясной, так і летам.

Падкормліваць кароў перад выганам на пашу можна сенам 5-6 ф. на галаву). Калі-ж сена няма, то падкормкай можа быць сечка (рэзка) з жытняй саломы, але аблітая салёнаю вадой. (3 залатнікі солі на 1 галаву) і пасыпаная мукою ці высеўкамі (2-5 фун. у суткі на галаву). Можна падкормліваць кароў яравою саломай, ці мякінай, калі гэта маецца ў гаспадарцы. Падкормка даецца ўраньні і вечарам.

Каровы падкормку ядуць добра, асабліва, калі трава на пашы не вялікая і калі стаіць халодная вясна.

Каб паказаць каштоўнасьць правілога кармленьня кароў вясною ў часе пераходу на пашу, прыводзім даныя аднаго вопыту:

| | Перад выганам на пашу. | УДОІ МАЛАКА Ў ФУН. па днях пашы. | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| Пры правіловым пераходзе на пашу. | 270 | 26.7 | 29.0 | 30.3 | 31.4 | 32 0 | 32.6 |
| Пры неправіловым пераходзе на пашу. | 270 | 20.0 | 19.0 | 21.0 | 24.0 | 24.0 | 25.0 |

Гэтыя данныя вельмі выразна паказваюць, як могуць памяншацца ўдоі кароў пры няўмелым пераводу кароў на пашу. Сялянам трэба абавязкова сваіх кароў падкормліваць вясной сухім кормам, як сена, салома, мякіна, а гэтак-жа і сытнымі кормамі, каб удоі ня падалі.

С. Журык.

## Правілы даеньня кароў.

Умелае кармленьне і даеньне кароў мае аднолькавае значэньне ў падтрыманьні малочнасьці. Няўмелым даеньнем можна хутка сапсаваць карову. І вось чаму кожны гаспадар павінен ведаць наступныя правілі даеньня.

1) Даіць карову трэба з правага боку адначасова за дзьве сыскі (заднюю правую з пярэдняй левай і наадворот).

2) Нельга даіць двумя пальцамі, калі адцягваньне вымя робіць жывёле боль і непакой. Лепшым будзе даеньне далоньню. Робіцца яно так: сыска, як можна вышэй, бярэцца вялікім і паказальным пальцамі, затым паступова сьціскаецца наступнымі пальцамі; малако пераходзіць з верхняй часьці сыскі і выцякае ў падойнік.

3) Першыя дзьве-тры струйкі трэба выдаіць на зямлю. Гэта прамывае канцы сысак ад папаўшай туды гразі і пылу, якія служаць прычынай порчы малака.

4) Даіць трэба без перапынку, роўнамерна, але хутка. Вялікая пена ў дайніцы ёсьць добрая прымета ўмелай дойшчыцы.

5) У часе даеньня, як і заўсёды, ня раіцца біць і крычаць на карову. Гэта прымушае карову неахвотна аддаваць малако, а то і затрымоўваць яго. З жывёлай трэба быць ласкавым.

6) Пільная ўвага патрэбна ў канцы даеньня. Не раіцца пакідаць карову ня выдаенай. Гэта можа сапсаваць самую малочную карову. Яна паступова прывыкне пакідаць частку малака.

Для найлепшага выдойваньня раіцца злёгку пацерці вымя з усіх бакоў.

7) Пасьля даеньня трэба выцерці сыскі, змазаць іх вазэлінам, або нясоленым кароўім маслам.

8) Нельга абмачваць сыскі першымі струйкамі малака, што так часта любяць рабіць дойшчыцы.

9) Перад самым даеньнем ня трэба раздаваць корм, бо гэта ўздымае шмат пылу, ад чаго ў малако пападае пыл і розныя мікробы.

Агроном Цімашкоў.

## Вэтэрынарыя.

### Як трэба захоўваць гаспадарку і жывёлу ад заразьлівых хвароб.

Усім вядома, што заразьлівыя хваробы шырацца нібы той пажар па вёсцы. Досыць часамі дзе-небудзь захварэць аднэй жывёліне, як ад яе заражаюцца і сьледам прападаюць шмат іншых жывёл.

Таксама вядома, што спыніць пажар заўсёды бывае лягчэй, калі загарыцца адна хата, чым потым тушыць яго, калі ўжо добра ўгарыцца альбо калі агонь захопіць шмат будынкаў. Гэтак бывае і з заразаю.

Вось чаму патрэбна адразу ліквідаваць заразу ў тым месцы, дзе яна зьявіцца. Нельга чакаць, пакуль зараза пашырыцца альбо замацуецца

ў гаспадарцы, а зараз-жа патрэбна ўжываць сродкі да ўсебаковага зьнішчэньня яе там, дзе яна зьявілася. Асабліва гэта важна ўлетку, ў гарачыню, калі ўсялякая зараза лёгка пашыраецца. Дзеля гэтага існуе шмат пэўных спосабаў, паміж якімі *адны нішчаць заразу ў целе*, аздараўляючы хворую жывёлу, *другія-ж ачышчаюць ад заразы ўсю навокал* здаровую жывёлу, пачынаючы з хлева і канчаючы кожнаю рэччу, якая толькі мела датычнасьць да хворае жывёлы; бо вядома, што хворая жывёла, дзе-б яна ні стаяла да чаго-б ні датыкалася,—ўсюды пакідае заразу.

Наколькі першыя спосабы, датычныя самое хворае жывёлы, могуць ужывацца толькі праз вэтэрынара, як спэцыялістага, настолькі другія спосабы, па ачышчэньню ад заразы ўсяго навокал здаровае жывёлы, залежаць ад стараннага ўдзелу самаго гаспадара. Вось чаму гаспадару мала яшчэ зьвярнуцца за парадаю да доктара, каб выхадзіць захварэўшую жывёлу, але патрэбна далажыць шмат стараньня і вед, каб не расьцягнуць заразы па ўсёй гаспадарцы, каб зьнішчыць заразу адусюль, дзе толькі яна магла застацца. Для гэтага, калі аб'явіцца на жывёліне хвароба, якая будзе выклікаць падазронасьць на заразьлівую, то неабходна:

1) *усю на погляд яшчэ здаровую жывёлу перавесьці* з таго хлеву, дзе захварэла жывёліна;

2) паіць хворую жывёліну *з асобнага вядра* і карміць яе асобна ад другіх (даглядаць яе асобнаму чалавеку);

3) безадкладна *зьвярнуцца да вэтэрынара* або фэльчара, які, прыехаўшы на месца, раскажа, як змагацца з хваробаю і якія спосабы ўжываць, каб не дапусьціць яе пашырэньня.

Калі-ж, як гэта часта бывае, жывёла *памрэ*, асабліва, калі яна прападзе *раптоўна*, без усялякай бачнай прычыны, тагды гаспадар мусіць ужыць такія захады, каб быць упэўненым, што зараза не пяройдзе ні на людзей, ні на жывёлу. Дзеля гэтага неабходна:

1) памёршую жывёліну вывезці з двара на могілкі;

2) закапаць яе ў зямлю ня менш, як на 3 аршыны, на высокім пяшчаным месцы;

3) драбіну або сані, на якіх вывозілі труп, добра абмыць гарачым лугам і тое самае зрабіць з абуцьцем і рукамі;

4) месца, дзе знаходзілася хварэўшая і памёршая жывёла павінна быць вычышчана, гной вывезены і спалены або звалены ў адну кучу, каб перагарэў. Сьцены хлеву хворае жывёлы і усе драўляныя часткі таксама вымываюцца моцным гарачым лугам, а запражка і раменныя яе часткі вышмароўваюцца дзёгцем; яшчэ лепш пасьля лугу сьцены, столь, перагародкі драбіны, жолабы і інш. пабяліць, а падлогу зьліць гэткай мешанінай: негашанае вапны 5 ф. і крэоліны $^1/_2$ ф. разьмяшаць у вядры вады і густым венікам наносіць на сьцены і інш., калі аднаго вядра мешаніны ня хопіць, то зрабіць другое, трэцяе і г. д.

Для перавозкі памёршае жывёлы на могілкі трэба браць драбінку альбо сані, на якія раней пасьцілаюць рагожу альбо якую-небудзь старызну, а то і проста кулявое саломы. Нос, рот, задні праход затыкаюць паклей ці сенам альбо ўкручваюць галаву анучкаю, каб у часе перавозкі трупу не выпадалі кал, сьліна, сьлізь і іншае. Людзі, якія прызначаны для ўскладаньня на воз трупу, павінны лепш надзець на рукі рукавіцы і толькі пасьля гэтага брацца за работу; але лепей, каб да перавозкі трупу дапускаліся людзі, у якіх рукі зусім здаровыя і непа-

раненыя, калі менш магчымасьці заразіцца. Узложаную на воз жывёліну накрываюць рагожамі, а асабліва добра завіваюць яе галаву. На могілках ужо наперад павінна быць выкапана яма ня менш, як на 3 аршыні глыбіні.

Зваліўшы труп разам з рагожамі ў яму, яго абліваюць 1-2 бутэлькамі газы, кідаюць у яму гальля і запальваюць. Робіцца гэта для таго, каб папсуць скуру на трупе, на якую часамі знаходзяцца аматары, якія аблупіўшы скуру, разносяць потым заразу. Драбінку альбо сані, а таксама абуцьце і рукі абмываюць гарачым лугам. Наогул, пры гэтым трэба старацца, каб адзежа падчас перавозкі і ўскладаньня на воз трупу не датыкалася да яго, інакш і адзежа павінна быць вымыта лугам.

Для таго, што найчасьцей зараза пашыраецца або праз датыкальнасьць да хворае жывёлы, або праз заражаны корм і ваду, патрэбна сьцерагчыся пакідаць не зарытымі трупы жывёлы на пашы і каля вады.



Незарыты труп—прычына заразы. Сабакі і птушкі расьцягваюць падлу і разьносяць заразу. Заражаны труп заражае глебу і ваду.

Правільна наладжаная барацьба з заразаю і пошасьцю вымагае, *каб пры кожнай вёсцы былі могілкі* для закопваньня на адным месцы памёршае жывёлы.



Рабеце-ж могілкі для жывёлы пры кожнай вёсцы!
Ня пушчайце на могілкі здаровае жывёлы!
Вывазеце трупы на асобных драбінках!

Вэтэрынар **І. Н. Серада.**

# ПЧАЛЯРСТВА

## Пчолы вясною.

### Выстаўка пчол.

Ня трэба сьпяшацца з выстаўкай пчол. Выстаўленыя пчолы пачынаюць працаваць: чысьцяць вульлі, соты, кармяць дзетку, якая будзе ўсё прыбаўляцца; працуючыя пчолы павялічаць цяплыню ў вульлі, і матка павялічыць кладку яек.

Асеньнія запасы пяргі не заўсёды добра перахоўваюцца і пчолам ад яе мала карысьці. Пчолы пачынаюць шукаць сьвежага пылку красак, вылятаюць за вадой і г. д.

Пры раньняй выстаўцы пчол (на прадвесьні) красак яшчэ няма, ці вельмі мала. Паветра халоднае. Глеба і вада таксама. Сонца і падвечар моцна прыгравае вульлі: яго промені заглядаюць у ляткі, і вабяць пчол. Пчолы вылятаюць і, шукаючы здабытку, садзяцца на блiскучы сьнег, вільготную халодную зямлю і дубянеюць.

А між тым, трэба добра памятаць, што адна пчала ў сакавіку даражэй дзесяцёх у чэрвені; толькі ад сямей, якія ўжо з вясны маюць належную сілу, можна чакаць добрага прыбытку.

Калі мае пчолы зімуюць добра (сядзяць ціха), то я іх выстаўляю тады, як закрасуюць вербы. У гэту пору ўжо здараюцца дні, калі і ў цені цяплыня даходзіць да 10° па цёпламеру Рэомюра.

Выстаўляюць пчол у ціхі і цёплы сонечны дзень.

Звычайна ставяць вульлі на іх старыя месцы, каб пчолы ў час свайго першага аблёту не траплялі ў чужыя вульлі: там яны могуць забіць матку ці прызвычаіцца да крадзежу.

Таксама лічыцца больш асьцярожным выстаўляць пчол пад вечар, каб яны спакойна абляцеліся толькі на другі дзень.

Але трэба сказаць, што па прычыне недахвату месца мне прыходзіцца ставіць пчол цесна, аршыны на два вулей ад вульля. Таксама не заўсёды магчыма ставіць іх на тое самае месца, дзе яны стаялі ў мінулым леце.

Выстаўляю заўсёды бліжэй да поўдня, асабліва калі пры дрэннай зімоўцы даводзіцца з гэтым сьпяшацца. Ад гэтага ніякай бяды ніколі ня здарылася.

### Першыя назіраньні за пчоламі на таку.

Пасьля добрага аблёту ў пчаляра спаўзае з сэрца „камень неспакою“. А першае вясновае і вольнае гудзеньне аблётваючыхся пчол зьяўляецца для пчаляра найлепшай музыкай. Прыемнасьць гэтае музыкі павялічваецца разуменьнем, што калі пчолы бадзёра абляцеліся,

дзелавіта сьпяшаюцца ў вульлей і пасьля гэтага зараз-жа бяруцца за працу (цягнуць добрую, поўную абножку), так усё гэта знача, што ў пчол у вульлі усё добра, (*ёсьць здаровая матка, ёсьць і запас мёду*).

Уважлівы пчаляр не абмяжоўваеццаназіраньнем за аблётам пчол. Ўвечар, калі пчолы супакояцца, ён выслухвае праз ляток усе свае вульлі. Добра, калі пчолы сядзяць ціха, ці роўна гудуць; а калі гудзеньне іх прарыўчатае і падобнае да выцьця, то гэта значыць, што справа ня пойдзе ў лад.

Такім чынам, добры пчаляр у першы-ж дзень па выстаўцы сваіх пчол будзе ўжо больш-менш ведаць, што у яго з пчоламі і на які з вульлёў трэба зьвярнуць увагу ў першую чаргу.

### Ачыстка днішчаў.

Але як-бы там ні было, калі на другі дзень надвор'е добрае і ў цяні зноў ня менш 8-10° цяплыні, трэба добра ўзяцца за ачыстку днішчаў і зрабіць хутка, хоць больш-менш і павярхоўны агляд пчол у гнязьдзе.

Найлепш, калі ў вульлях ад'ёмнае дно. У мяне вульлі сыстэмы Дадан-Блад і я раблю так:—

Перад вульлём кладу чатыры цэгліны, або плоскія каменьні. Даю ў ляток трохі дыму, здымаю асьцярожна гняздо з днішча і кладу на прыгатаваныя падкладкі. Потым добра прыглядаюся да застаўшагася на месцы днішча і шукаю, ці няма сярод мёртвых пчол маткі; па колькасьці і якасьці сьмецьця, а гэтак-жа і па яго пляну стараюся зразумець, як зімавалі пчолы.

Вельмі карысна не пакладацца пры гэтым на сваю памяць, а ў асобным штодзеньніку запісаць пад нумарам кожны вульлей і ўсё, што прышлося аб ім даведацца.

Увесь сор трэба старанна зьмесьці ці саскрэбці. Калі сярод сьмецьця багата дробных кавалачкаў воску, трэба іх адсеяць, а сьмяцьцё закапаць у гной. Кідаць яго каля вульля ня можна. Гэтым толькі прывабіш мурашак, а часам і якую-небудзь пчальную хваробу можна распаўсюджыць.

Навакол вульля павінна быць заўсёды чыста, высыпана пясочкам, каб можна было бачыць, што пчолы з вульля выкідаюць.

Выскрабшы днішчы, трэба іх вымыць. Найлепш мыць растворам хамелеону (марганцава-квасным калі), які купляецца ў аптэцы ці аптэкарскай краме. *У бутэльку вады трэба ўсыпаць некалькі крышталаў хамелеону*, каб *вада зрабілася моцна-чырвонай*. Такая вада аздараўляе днішча і нішчыць няпрыемны пах. Потым трэба добра выцерці днішча чыстаю анучай і паставіць яго на месца. Днішча павінна стаць роўна, як па грунтвазе; ад гэтага залежыць пабудова сотаў. Не пашкодзіць, калі днішча будзе мець невялікі нахіл у бок лятка: пчолам лягчэй будзе чысьціць вульлей.

Але трэба адзначыць, што добры пчаляр павінен, як мага берагчы працу сваіх пчол. (*Няхай яны робяць тое, чаго не зрабіць ніякаму пчаляру*).

Калі пчаляр будзе што-тыдзень прыпадымаць ззаду вульлі і замятаць сьмяцьцё, то ў яго ніколі ня будзе матыліцы і пчолы ня будуць дарма траціць час і мёд на гэту працу.

Паставіўшы гнёзды вульляў на днішчы, трэба звузіць ляткі, каб у іх адразу магло ўвайсьці ня больш двух пчол. Потым, трэба зьняць

з гнязда падушку і падвярнуць трошкі палатно, якім прыкрыта гняздо; адсунуць застаўную дошку і вынуць самую крайнюю рамку.

Калі на ёй мёду і пчол няма, або вельмі мала, то гэту рамку назад у гняздо ставіць ня трэба.

Гняздо будзе цяплейшым, а гэта якраз і добра у раньнюю вясну, калі часам ночы бываюць вельмі халодныя ці наогул часта вяртаюцца халады (мажа астудзіцца чарва).

Неабходна агледзіць, хоць з аднаго боку першыя тры рамкі. Часам на трэцяй ці на чацьвертай рамцы ўжо можна заўважыць пчалінную дзетку ці яйкі.

Такім чынам, упэўніўшыся, што ў вульлі ёсьць мёд і матка, трэба зноў прысунуць застаўную дошку.

Калі мёду мала, зараз-жа трэба паставіць за дошкі рамку ці паўрамку з мёдам і добра закрыць гняздо зьверху. Для гэтага добра паверх падушкі, якая заўсёды бывае ў рамовых вульлях, пакласьці ўдвойчы зложаны чысты мяшок.

Пасьля такога агляду трэба яшчэ паставіць на пасецы карытка з вадой, а каб пчолы не тапіліся, трэба палажыць на ваду чыстага моху ці рэзанай саломы. (Трэба берагчы пчол, якіх багата гіне ў час вылёту за далёкай вадою).

Добра на бутэльку вады даваць чайную лыжку солі. Пчолы любяць такую ваду.

Калі красак яшчэ мала і пчолы не нясуць абножку (пыл красак на задніх ножках), то трэба недалёка ад пасекі паставіць рамку са старой пчалінай ці яшчэ ляпей трутнёвай сушшу, у соты якой трэба насыпаць гарохавай, або аўсянай ці жытняй мукі.

Пчолам треба карміць дзетак, і для гэтага яны з мёду, пяргі (ці мукі) і вады вырабляюць асобную кашку.

Трэба клапаціцца, каб пчолы, як-мага хутчэй, прышлі ў пэўную сілу. Толькі моцныя семьі будуць добра змагацца з усялякай пчалінай бядой.

### Галоўны веснавы агляд пчол.

Пры рамовых вульлях пчаляр заўсёды можа сачыць за жыцьцём і працай пчол і кіраваць імі.

Вось чаму ня трэба пазьніцца з падрабязговым пераглядам вясною ўсіх рамак у гнязьдзе („галоўная рэвізыя“).

Толькі добра упэўніўшыся ў неабходнасьці той ці іншай дапамогі, пчаляр можа спакойна пачаць неабходную працу, каб прывесьці пчол у належны парадак пасьля доўгага зімовага часу.

Але ўсё-ж такі трэба памятаць, што і самаму здольнаму пчаляру прыдзецца досыць доўга турбавацца над кожным вульлём.

Таму, ў час галоўнае рэвізыі павінна быць цёплае надвор'е інача магчыма застудзіць чарву (у цені 12° цяплыні па Рэомюру).

Калі мёду мала, дык трэба за застаўныя дошкі з запасаў паставіць рамку ці паўрамку з мёдам, ускрыўшы хаця частку сотаў.

Цьвілыя соты лепей выразаць, а выпэцканыя канцы і бакі рамак трэба выскрабці і г. д.

Усе непакрытыя пчоламі рамкі з вельмі старымі і чорнымі сотамі, бяз мёду і дзеткі трэба вынуць з гнязда, а да застаўшыхся прысунуць застаўныя дошкі і зьверху зноў укрыць усё гняздо.

Усё бачанае трэба запісаць у дзеньнік, азначыўшы таксама, што трэба яшчэ зрабіць, каб прывесьці той ці іншы вульлей ў належны парадак.

Запіс веснавога агляду пчол у мяне мае такі выгляд:

| Дзень агляду і № вульля | Колькі рамак было | Колькі засталося ў гнязьдзе | Колькі пакрыта пчоламі | Матка | Чарва | Яйкі | Мёд | Пярга | Сіла сямьі | Цьвіла | Іншыя увагі | Што зрабіць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1/5 I | 8 | 7 | 7 | Ня бачыў | Добрая на трох рамках | Ёсьць | Каля 10 ф. | Ёсьць | Вялікая | Мала | Багата стар. сотаў | Абнавіць гнязьдо |
| II | 6 | 4 | 3 | Няма | Няма | Няма | Каля 15 ф. | Ня бачыў | Малая | Багата | Гнязьдо выпэцкана | Злучыць пчол з іншай сям'ёй |

і г. д.

Калі прыдзецца злучаць пчол, дык трэба, падкурыўшы слабую сям'ю, адшукаць там матку і пасадзіць асьцярожна яе на два дні ў асобную драцяную клетку.

Гэтую клетку трэба прычапіць да сярэдняга сота (пасярэдзіне ці пад верхам рамкі).

Пасьля гэтага, разсунуўшы рамкі, апырскаць іх сытой.

Таксама трэба зрабіць і з пчоламі бяз маткі, якіх будзяце дадаваць у першы вульлей.

Усё гэта робіцца, каб ня было бойкі паміж пчол і каб чужыя пчолы не забілі матку.

С. С.

---

# Як выводзіць пчаліныя маткі.

Пчаляру добра вядома, што прыбытак ад пчалінай сям'і перш наперш залежыць ад сілы гэтае сям'і. А дужая пчаліная сям'я можа быць толькі пры добрай, маладой і плоднай матцы. Для гэтага ўсялякаму пчаляру трэба ў свой час замяняць старых дрэнных матак маладымі. Дзеля таго-ж трэба ўмець і выводзіць маладых матак.

Як-жа выводзіць новых матак?

Рабіць гэта патрэбна так: у той час, як на пасецы зьявяцца трутні, трэба выбраць добрую і дужую пчаліную сям'ю. З гэтае сям'і бяруць матку і садзяць яе ў другі вульлей, дзе яна патрэбна, як маткі няма. Сям'я, у якой забралі матку ў той-жа час заложыць сабе некалькі матачнікаў. На пяты дзень, пасьля пераносу маткі з моцнае сям'і, трэба агледзіць матачнікі і тыя з іх, якія ўжо запячатаны, вырэзаць, бо гэткія матачнікі закладзены на „чарвячкох", чаму і маткі з іх будуць кепскія; а добрыя на пагляд матачнікі, якія яшчэ не запячатаны, значыць закладзены на яйках, трэба пакінуць. Калі пройдзе яшчэ тыдзень, то трэба ўзяць з вульля тыя рамкі, на якіх закладзены матачнікі, перанесьці ў цёплы будынак і выразаць матачнікі крыху нагрэтым нажом. Вырэзваць матачнік трэба вельмі асьцярожна, каб не папсаваць. Далей, кожны матачнік трэба прычапіць

шпількай у асобную каморачку, зважаючы, каб матачнік быў прычэплян у каморцы так, як ён быў на рамцы. Усе каморкі з матачнікамі трэба зноў вярнуць ў вульлей, дзе і будуць канчаткова выходзіць маткі, але кожная ў сваёй каморцы. Матачнікі кладуць ў асобныя каморкі для таго, што калі гэтага ня зробім, то матка, якая выйдзе першай, пазабівае ўсіх тых, якія яшчэ не павыходзілі з матачнікаў, бо, як вядома, адна матка ня церпіць у вульлі іншых матак.

Каморачкі, ў якіх знаходзяцца матачнікі, лепей ад усяго рабіць дрэўляныя, (з дошчачак), але гэтак, каб два бакі каморкі можна было зачыніць, так званай, ганеманавай краткай. Ганеманава кратка зроблена так, што праз яе дзірачкі праходзяць толькі пчолы, а матка, як большая па велічыні, не праходзіць. Гэткія краткі купляюцца. Велічыня каморкі павінна быць 8×4×6 сант.

Каморкі з прычэпленымі ў іх матачнікамі трэба класьці ў вульлі на рамкі. Паверх іх кладуць палатно і падушачкі, каб зьбіралася цяпло. У кожную пакладзеную гэтак каморачку, вельмі хутка праз ганеманаву кратку набіваюцца пчолы, якія грэюць матачнікі і ходзяць за маткаю, калі яна выйдзе.

Робячы ўсё так, як апісана вышей, вельмі добра наглядаць, калі выходзяць маткі: для гэтага трэба толькі адчыніць вульлей, крыху падняўшы падушку і палатно лёгка ўбачыць, у якіх каморках ужо вышлі маткі.

Выведзеныя маткі падсаджваюць гэтак. У той вульлей, дзе пчолы ня маюць маткі, пераносяць маладую матку разам з каморкай, у якой яна вывелася і разам з тымі пчоламі, якія набіліся ў каморку. На другі дзень матку асьцярожна выпускаюць з каморкі, для чаго каморка толькі адчыняецца; матка сама выходзіць з каморкі і йдзе ў гняздо вульля.

**М. Найдзёнаў.**

---

# ЗЕМЛЕУСТРОЙСТВО

## Обрезка крупных хозяйств.

В 1917—1919 г. г. в РСФСР происходило стихийное поравнение земли. Крестьянство, взяв в свое распоряжение почти все нетрудовые земли, стало распределять их между отдельными малоземельными дворами. В местностях малоземельных поравнению подверглись и крупные трудовые хозяйства. Однако некоторые из них сохранились до сих пор.

В бывшей Минской губернии поравнения этого не было, так как ему мешали близость фронта, а затем немецкая и польская оккупации. В результате здесь остались довольно крупные хозяйства до 150 дес. Обрабатываются они наличными силами двора с применением наемного труда.

Наряду с ними, несмотря на распределение населению земель запасного фонда, в Белоруссии имеется еще много и малоземельных хозяйств, для которых не хватило земли до нормы.

Земельный Кодекс БССР устанавливает по районам норму трудового землепользования.

Если хозяйство имеет земли больше, чем причитается ему по норме, а окрестное население не обеспечено и наименьшей нормой, то излишек земли сверх нормы отнимается от такого хозяйства и передается нуждающимся с соблюдением очереди, установленной ст. 10 Зем. Код.

Норма исчисляется в зависимости от количества в хозяйстве трудовых единиц. Каждый член двора в возрасте до 12 лет считается за $^1/_4$ трудовой единицы, в возрасте от 12 до 16 лет — за $^1/_2$ и старше 16 лет—за целую единицу.

Нормальным считается хозяйство, имеющее 4 трудовых единицы. При обрезке ему оставляется количество разных угодий земли в зависимости от районов:

| Группы районов. | Усадебной и пахотной земли. | Луга. | Прочих угодий. | Итого удобн. в десятинах. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 7 | 1,8 | 0,4 | 9,2 |
| 2 | 7,1 | 2,2 | 1 | 10,3 |
| 3 | 6,9 | 3,4 | 1,5 | 11,8 |
| 4 | 6,7 | 4 | 1,8 | 12,5 |
| 5 | 6,3 | 4,4 | 3 | 13,7 |

Это количество земли оставляется хозяйству, имеющему от 2 до 4 трудовых единиц. Если в хозяйстве нет 2 трудовых единиц, то количество оставляемой земли пропорционально увеличивается.

Половина исчисленного таким способом количества земли составляет наименьшую норму.

В случае невозможности оставления хозяйству угодий в показанном выше размере, допускается замена их по такому расчету в десятинах:

| Группы районов. | Пашни. | Земельного луга с укосом от 150 п. | Заливного и суходольного луга с укосом менее 150 пудов. | Прочего луга, выгона и кустарника |
|---|---|---|---|---|
| 1-3 | 1 | 1 | 1,2 | 2 |
| 4 | 1 | 1 | 1,3 | 2,5 |
| 5 | 1 | 1 | 1,4 | 3 |

При исчислении количества трудовых единиц в хозяйстве принимаются во внимание не только наличные члены двора, но и временно выбывшие из него по уважительным причинам, а именно: состоящие по призыву на военной службе, служащие по выборам, обучающиеся в учебных заведениях, состоящие на излечении в лечебных заведениях, признанные безвестно отсутствующими и временно отлучившиеся на трудовые заработки.

В отношении зарегистрированных в установленном порядке культурных хозяйств могут применяться более высокие нормы.

Что же касается хозяйств, в отношении которых уже применялась обрезка на основании решений земельных комиссий, то новая их обрезка может быть произведена лишь после отмены в порядке надзора вступивших в законную силу судебных решений и при том, если количество оставленной им земли значительно превышает норму и если при этом окрестное население не обеспечено наименьшей нормой.

*Одновременно с обрезкой* производится и распределение среди необеспеченных землею хлеборобов образовавшегося фонда. Для этого составляется землеустроительный проект и на общем основании предявляется, как подлежащему обрезке хозяйству, так и уполномоченным местного земельного общества. Затем дело вместе с жалобами, если таковые поступят, направляется в районную земельную комиссию. *Решение последней по этого рода делам обращается к предварительному исполнению*, хотя бы на него была подана жалоба в окружную земельную комиссию.

Ниже приводится список всех районов по группам:

*1 группа районов*: Самохваловичский, Слуцкий, Копыльский, Витебский, Лосвицкий, Горецкий, Ляднянский, Дрибинский, Могилевский, Шкловский, Луполовский и Мстиславльский.

*2 группа*: Острошицко-Городецкий, Койдановский, Смолевичский, Свислочский, Борисовский, Гресский, Краснослободский, Бобруйский, 2-ой Рогачевский, Жлобинский, Городецкий, Будо-Кошелевский, Лиознянский, Сиротинский, Городокский, Толочинский, Кохановичский, Оршанский, Копысский, Дубровинский, Чаусский, Муровичский, Кормянский, Ряснянский, Костюковичский и Кричевский.

*3 группа*: Заславльский, Пуховичский, Логойский, Червенский, Шацкий, Узденский, Черейский, Лепельский, Зембинский, Крупский, Холопеничский, Стародорожский, Старобинский, Любанский, Осиповичский, Свислочский, Бобруйский 1, Паричский, Стрешинский, Полоцкий, Ветринский, Дриссенский, Волынецкий, Ушачский, Ульский, Суражский Бешенковичский, Чашниковский, Сенненский, Езерищенский, Высочанский, Богушевский, Круглянский, Белыничский, Быховский, Пропойский, Чериковский, Краснопольский, Хотимский, Климовичский и Милославичский.

*4 группа*: Плещеницкий, Бегомльский, Березинский, Мозырский, Житковичский, Петриковский, Копаткевичский, Калинковичский, Озаричский, Освейский, Россонский, Дретуньский, Межанский, Чичевицкий и Белынковичский.

*5 группа*: Туровский, Лельчицкий, Наровлянский и Каролинский.

**Е. Вишневский.**

---

# Улучшение сельского хозяйства в период землеустройства.

Сложилось чуть ли не общее мнение как среди крестьянства, так партийных, советских и земельных работников, что до землеустройства немыслимо никакое улучшение в сельском хозяйстве, (применение травосеяния, развитие технических культур и др.). Такое мнение является вредным, если неопасным, и не имеет под собой достаточной почвы. От такого мнения и взгляда необходимо поскорее отказаться и уяснить себе всю его вредность.

Является бесспорным, что землеустройство, направленное к выгодному устройству сельского хозяйства с учетом его хозяйственно-экономической стороны, значительно облегчает работу по улучшению и развитию сельского хозяйства. Оно закладывает прочный фундамент к дальнейшему развитию (интенсификации) сельского х-ва, почему на ускорение землеустройства приходится обращать особенное внимание.

Однако, расчет времени необходимого на проведение землеустройства на всей площади земель с.-х. назначения (за вычетом площади землеустроенной в дореволюционный период и при советском строе) с учетом максимальных возможностей показывает, что землеустройство будет проходить не менее 15-16 лет.

Из этого и необходимо исходить в нашей работе по улучшению и развитию трудового сельского хозяйства. Если землеустройство будет проходить в течение 15-16 лет, то неужели в течение этого периода невозможно и не должно проводиться никакое улучшение в нашем неземлеустроенном сельском хозяйстве?

Продолжительность времени землеустроительных работ требует этого улучшения, а в связи с этим необходимо посмотреть и выяснить, есть ли для того возможность. Она несомненно имеется и определяется в следующих мероприятиях.

*Общеизвестный враг в сельском хозяйстве — это трехполка.* В борьбе с нею самое радикальное — это введение многополья. Ввести многополье—это значит применять травосеяние, развитие технических культур и т. д.

Можно ли при чрезполосном землепользовании и разбросанности земель применять травосеяние и технические культуры? По моему можно и с успехом.

В земельном обществе черезполосное землепользование бывает в двух случаях: первый—это когда в обществе установлен единый для всех севооборот и второй—когда не применяется общего севооборота, а каждый двор на своих полосках и отдельных участках применяет севооборот по своему усмотрению и независимо от остальных.

В первом случае, когда в обществе имеется единый севооборот, переход на многопольный (четырех, пятипольный и др.) не представляет больших затруднений. Эту работу сравнительно легко могут проводить участковые агрономы, которые и проводят ее в настоящее время.

Во втором случае, когда нет общего севооборота, при содействии агронома, каждый двор в отдельности может приспособиться к постепенному применению посева клевера, вики, люпина, сераделлы, льна и проч. В данном случае даже легче и выгоднее провести травосеяние и развитие технических культур. Легче потому, что никто в этом не стесняет отдельного домохозяина, а выгоднее тем, что отдаленные участки, где не всегда удобно и выгодно подвозить навоз, могут удобряться применением посева люпина, вики и клевера.

Такая система с большим успехом широко применяется в Минщине. Здесь, конечно, имеются некоторые трудности планового характера. Но если принять во внимание, что переход на многопольный севооборот достигается в течение нескольких лет, т. е. представляет меру длительного характера, то применение посева трав и других культур крайне необходимо в условиях любой формы землепользования. Это дает возможность крестьянину постепенно получить навык и освоиться с многопольным севооборотом.

В прошлой работе по землеустройству имеется много случаев, когда хозяйство, переведенное на многопольный севооборот, не могло его осуществить как по своей бедности, так и не будучи к тому подготовлено, т. е. не усвоило способов хозяйствования при многопольном севообороте.

Из этого вытекает необходимость, независимо от устроенности селького хозяйства, форм и способов его землепользования и системы хозяйства, постепенно вводить посев клевера, люпина, вики, сераделлы и проч. для усвоения многопольного севооборота, составляющего первоочередную и необходимейшую меру каждого крестьянского хозяйства. От этого получается только польза для селянина и при переходе на многополье.

Опасение, что в таких случаях не будет плановости в севообороте и хозяйствовании совершенно напрасно, так как каждый крестьянин в состоянии в таких случаях великолепно разбираться без посторонней помощи. Плановость же будет оформлена тогда, когда будет проведено землеустройство; после чего плановость будет прочнее и крепче, так как после правильного устройства каждый крестьянин в состоянии будет, имея опыт и экономическую возможность, установить необходимый севооборот и получать от него все выгоды.

**П. Ревинский.**

# КООПЭРАЦЫЯ

## Шкодныя нахілы нізавой с.-г. коопэрацыі.

С.-г. коопэрацыя за апошні год дасягнула значных вынікаў. Аб гэтым сьведчыць, як рост самых коопэратываў, гэтак і лік членаў і разьмеры зваротаў. Але разам з тым некаторыя аб'яднаньні маюць яшчэ шмат хваравітых і шкодных нахілаў.

1) Некаторыя коопэратывы імкнуцца ахапіць і здавольніць усё насельніцтва свае акругі, пайшчыкаў і непайшчыкаў,—і пры тым на аднолькавых умовах. Такая сыстэма з аднаго боку ня спрыяе росту коопэраваньня, а з другога не дае магчымасьці абслужыць сваіх членаў у поўнай меры. Коопэратыў ува ўсіх сваіх опэрацыях павінен апірацца на пайшчыкаў. Праца з нячленамі мажліва толькі на ўмовах менш спрыяючых.

2) Большасьць коопэратываў імкнецца захапіць усялякую працу, у тым ліку і выпадковую опэрацыю. Напрыклад, некаторыя коопэратывы на 75 проц. трымаюць спажывецкія тавары (соль, селядцы, цукеркі і інш.) і толькі 25 проц. прыпадае на сельска-гаспадарчыя. Гэта значыць коопэрацыя ўхіляецца ад непасрэднай сваёй мэты забясьпечаньня пайшчыкаў насеньнем, машынамі, угнаеньнем, пашырэньнем с.-г. вытворчасьці, а, проста кажучы, гандлюе, абы мець барыш. У мінулым гэта яшчэ знаходзіла апраўданьне. Трэба было набываць сродкі. Але цяпер, калі коопэрацыйная справа становіцца на здаровы грунт, гэткія ўхілы шкодны: яны тармозяць нормальнае разьвіцьцё нашай працы.

Чым хутчэй с.-г. коопэрацыя накіруе сваю працу ў бок вытворчасьці, тым хутчэй яна дасягне свае мэты і здабудзе павагу і даверра сярод сялянства.

3) Часта с.-г. таварыствы, адмаўляючыся ад гандлю, усю ўвагу зьвяртаюць на вытворчасьць і тым гнуць палку ў другі бок. Яны організуюць розныя прадпрыемствы, раськідваюцца ў працы і ня лічуцца з тым, што на гэта не стае сродкаў і спэцыялістых, якія могуць кіраваць прадпрыемствам.

У выніку, пры недастачы сваіх сродкаў ці патрэбнага крэдыту, мы маем прадпрыемствы, якія працуюць з перабоямі і стратай.

4) Коопэратывам трэба памятаць, што будаваць можна толькі тое прадпрыемства, якое ў данным раёне мае с.-г. значэньне і ў якім зацікаўлены сяляне.

Калі адно прадпрыемства нарыхтавана, забясьпечана працай, тады можна закладваць новае.

5) У шмат якіх коопэратывах прымячаецца вялікі процант накладных выдаткаў. Гэта залежыць ад вялікага ліку служачых і няздольнасьці Кіраўніцтва паставіць працу.

6) Нарэшце, трэба адзначыць, што с.-г. таварыствы ў большасьці працуюць бяз усялякага пляну і коштарысу. Праца іх мае выпадковы характар. Коопэратывы павінны перад кожным сэзонам выразна падлічыць, што ім трэба зрабіць у надыходзячы час: колькі купіць насеньня, машын і якіх; якое арганізаваць прадпрыемства (млын, каўбасную, злучпункт, пракатны пункт), колькі на гэта патрэбна сродкаў і дзе іх узяць; ведаць раней, які будзе прыбытак, а мо' й ці сходна ўсё гэта. Нельга, напрыклад, на пазычаныя грошы купляць тавары ўперад на цэлы год, як гэта практыкуюць некаторыя коопэратывы. Тавар ня продан, а доўг трэба аддаваць. Плян працы трэба дапасоўваць да патрабаваньняў рынку. Яго лепш апрацоўваць сумесна з агрономам.

Над зьнішчэньнем гэтых недалікаў у працы нашай нізавой коопэрацыі павінны працаваць як мясцовыя, так і саюзныя аб'яднаньні.

А. Рыбакоў.

---

# ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Аб пашы ў лесе*).

Лес патрабуе вельмі ўважлівых да сябе адносін. Бяз догляду за лесам ці няўмелым карыстаньнем можна хутка зьнішчыць лясныя плошчы. Правіловая-ж лясная гаспадарка патрабуе, каб кожны год адначасова з вырубам лесу йшло і панаўленьне новых плошч. У гэтым разе плошча лесу ня будзе зьменшацца.

Знача, да ўсіх маладых лясных насаджэньняў патрэбна вельмі пільная ўвага, каб яны хутка маглі падняцца ў сталыя насаджэньні. Ня меншую ўвагу патрабуюць і маладыя ўсходы лясных парод.

А між тым, ім вельмі часта шкодзіць паша скаціны ў лесе. Жывёла ахвотна есьць лісьце дуба, ясеня, клёна, бярозы і іншых ліставых парод. Асабліва-ж жывёла любіць маладыя, сьвежыя і мяккія лісьці усходаў, на якія яна накідваецца ў першую чаргу і зрывае іх; часта яна вырывае ўсходы з карэньнямі. Дрэва, у якога зьедзены верхавы пучок, пачынае даваць бакавыя галінкі, расьце крыва, часта нават кусьціцца, але не дае роўнага і прыгожага дрэва. Такі лес—пэуны матэрыял толькі на дровы. Усходы ёлкі і сасны скаціна амаль не чапае, але робіць урон вытаптваючы іх. Гэтыя ўсходы праз некалькі першых год маюць вельмі незначныя карэньні і слаба сядзяць у зямлі, чаму конь ці карова вельмі лёгка можа выбіць іх нагамі.

Акром таго, жывёла ўтаптвае глебу ў лесе, чаму яна робіцца зьдзярнелай. На гэткай глебе насеньне лясных парод хаця і прарастае, але ня можа добра ўкараніцца і маладыя ўсходы гніуць у значным ліку.

Асаблівы ўрон робіць жывёла маладому лесу, калі яна пасецца на адным месцы і вялікім стадам. Найбольш шкодны лесу козы, коні і каровы. Коз дык і зусім ня трэба пускаць у лес, бо яны ня толькі нішчаць усходы і лісьця маладых насаджэньняў, але часта абргызваюць і кару на старых дрэвах. Дрэвы з абгрызенай карой, калі і ня гінуць з першага году, то пачынаюць гніць, хварэць і нарэшце ўсё-ж такі гінуць.

Вядома, абыйсьціся бяз пашы ў лесе нельга, але пасьвіць у лесе жывёлу трэба ўмеючы і ня ў кожным месцы. На ўсіх вырубах-палянках, якія запушчаны пад самазасевы лесу, а гэтак-жа па ўсіх маладых зарасьлях скаціну пасьвіць нельга. Тут яна робіць значны ўрон лесу.

У старым-жа лесе ці такім, які ўжо вырас, жывёла ня можа даставаць вяршынак, чаму і паша ня лічыцца шкоднай.

---

*)Рэд. Артыкул друкуецца з скарачэньнем.

Пры жывёле, калі яна пасецца ў лесе, абавязкова павінен быць пастух. Ён будзе даглядаць, каб жывёла ня трымалася доўгі час на адным месцы ці не заходзіла на вырубы і маладыя зарасьлі.

Для пасьбы ў лесе сялянам неабходна браць у лясьніцтвах адпаведныя білеты. Білеты на пашу даюцца бяз кошту.

**К. Іваноў.**



450-годні дуб.

Вышыня 50 ар., таўшчыня 2 ар. 6 вяр. (*Авцюцевічскае лясьніцтва, Рэчыцкага пав. Менскай губ.*).

# АГРОДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Парады агронома.

*Пытаньне 1-е.* У Пухавіцкім раёне, Менскай акругі маю невялікі сад, у якім ёсьць 36 дрэў яблынь і груш. Узрост саду 35-40 год. Шмат дрэў у каронах спляліся, зацянілі грунт і даюць ураджай невялікі, а плод дробны. Калі ласка, дайце параду, што налэжыць зрабіць, каб дрэвы лепш радзілі. Ці ня лепей будзе пасадзіць новы сад?

**Ст. Маеўскі.**

*Адказ.* Старыя, але здаровыя дрэвы можна адмаладзіць не высякаючы і карыстацца яшчэ год 10, а то й больш. Адмаладжваюць дрэвы наступным спосабам: на вясну скарацеце гальлё на трэцюю частку даўжыні, а густое гальлё працерабеце. Тоўстае гальлё патрэбна адпілаваць садовай пілкай, уважаючы, каб не абдзіраць кары на абрэзаным суку. Рану выгладзіць нажом і замазаць садовай мазью. Адначасова ўвесь сад патрэбна ўгноіць компостам, ці гноем.

Калі-ж дрэвы ўжо зусім старыя і хворыя, то найлепш будзе залажыць новы сад. Пры жаданьні садзіць сад на гэтым самым месцы, усе старыя дрэвы належыць высячы, грунт добра ўгноіць і гады два засяваць збожжам, а лепш кораняплодамі, бульбай, альбо мяшанкай выкі з аўсом, і ўжо пасьля гэтага садзіць новыя прышчэпы, але так, каб замест яблынь пасадзіць сьлівы, а дзе былі сьлівы пасадзіць яблыні.

На старыя месцы новыя дрэвы не садзяць. Лепш паміж кожнымі чатырмя старымі дрэвамі пасадзіць адно новае. Калі ёсьць магчымасьць залажыць сад на новым месцы, то гэта будзе лепш, бо на новым месцы сад заўсёды лепей расьце. Прышчэпы для пасадкі можна атрымаць у саўхозе Блонь ці ў Марына-Горскім с.-г. Тэхнікуму.

*Пытаньне 2-е.* У мяне ёсьць каля 50 пуд. лубіну, чуў, што ім можна карміць жывёлу; аднака баюся, каб ён ня шкодзіў. Прашу парадзіць, якой жывёле, у якім стане і паколькі можна даваць у корм лубіну.

**Яз. Каваль.**

*Адказ.* Лубін не заўсёды мае ў сябе атруту. Бываюць гады, у якія лубін зусім бывае няшкодны, а ў іншыя вельмі атрутны. Атруту ў сабе маюць ня толькі зярняты, але струкі, салома, а таксама сена з лубіну і лубін зялёны. Каб зрабіць лубін няшкодным, ужываюцца розныя спосабы.

1. Калі маеца запарнік, то пасьля 2-х гадзіннага параньня лубін можна ўжываць бяз шкоды для жывёлы.

2. Лубін гатуюць у звычайным гаршку 2 гадзіны, затым перасыпаюць у кошык і ставяць у бягучую ваду рэчкі на 48 гадзін, каб вада

добра перамыла лубін. Затым лубін сушаць, мелюць або таўкуць і ў такім стане даюць жывёле. Даваць можна—

*Карове* ня больш, як 2 фунты ў дзень. Каровы могуць зьядаць бяз шкоды і да 12 фунт. лубіну, але больш двох фун. даваць ня раіцца, бо ад яго бывае нясмачнае малако і масла.

*Валом*—6-7 фунт. у дзень.

*Маладняку жывёлы*—$1^1/_2$ фунт. у дзень.

*Каню*—8 фун. у дзень. Большая колькасьць шкодзіць.

*Авечкам*—1-$1^1/_2$ фун у дзень на штуку.

*Ягнятам*—$^1/_2$ фун. у дзень.

*Сьвіньням* да 2-х фун. у дзень.

Агрон. **Ул. Даведчык.**

---

# Прысёлак Станіславава.

*(Краснапольскага раёну, Калінінскае акр.).*

Утварыўся прысёлак у 1922 годзе сялянамі вёскі Трубіньня на абшарах быўшага маёнтку, а землябудаўнічая справа пачалася ў 1921 годзе. Вышла ўсяго на прысёлак 9 гаспадароў. Агульная плошча зямлі—88 дзес., з якой пахаці—70, а ўся іншая – сенажаць, выган, кусты. Пад сялібы вызначана па 1 дзес., дзе маецца гарод і сад (50-100 дрэў).

Сярэдняя гаспадарка мае каля 8 дзес. Выходзілі сяляне на прысёлак з абшчыны, атрымоўваючы па $1^1/_2$ дзес. на душу. Зямля прысёлку пераважна лёгкі суглінак.

*У палявой гаспадарцы прысёлак завёў 8-мiпольны севазварот*; ў кожным полі маецца па 1 паласе.

8-міпольле мае гэткі узор:

1) папар заняты (выка па гною),
2) жыта з падсевам канюшыны і цімафейкі,
3) канюшына 1-га году,
4) канюшына 2-га году,
5) ярына (авёс, ячмень, пшаніца).
6) папар заняты (выка на корм па гною)
7) жыта
8) бульба, ярына.

*Землябудаўнічая справа і пераход да новай формы гаспадараньня* даў мажлівасьць гаспадаром прысёлку вельмі хутка і добра арганізаваць свае гаспадаркі. Для разуменьня ўсяго гэтага трэба дадаць, што цяпер у 5 гаспадароў прысёлку маецца параконны сакаўскі плуг (на кольцах), у 3-х бароны „зіг-заг“; на ўвесь прысёлак маецца 3 арфы, 1 сячкарня і радковы сяўнік.

| | |
|---|---|
| Сярэдні гаспадар мае коняй . . . . | 2 |
| „ „ „ кароў . . . . | 2 |
| „ „ „ маладняку . . . | 2 |
| „ „ „ сьвіньней . . . | 2 |
| „ „ „ авечак . . . . | 6 |

Паказваю ўраджаі прысёлку з 1 дзес. 1924 г. у параўнаньні з ураджаямі вёскі Трубільня 1921 году і ў тых-жа гаспадароў.

| Назва культуры | 1921 г. | 1924 г. | Назва культуры | 1921 г. | 1924 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Жыта . . . . | 40 п. | 60 п. | Яравая пшаніца | — | 90 п. |
| Авёс . . . . . | 40 „ | 50 „ | Бульба | 600 п. | 750 „ |
| Ячмень . . . . | 50 „ | — | Канюшына (сена) | — | 250 „ |
| | | | Выка (сена) | — | 150 „ |

Як культурнасьцю сваёй палявой гаспадаркі, так і пабудовай сяліб, прысёлак зьвяртае на сябе ўвагу кожнага. Сярод сялянства ён сапраўды лічыцца прыкладным. Асабліва добра пабудованы хаты й іншая будоўля. Сярэдні разьмер хаты мае 10×12 арш. Адзін гаспадар мае хату 12×16 арш. з пяці пакояў. Два гаспадары пабудавалі нават над хатамі жалезныя стрэхі.

У арганізацыі прысёлка дзейны ўдзел прымаў агроном *Арцеменка В. Ю.*

С. Т.

## Барацьба з палявымі мышамі.

*Хто вораг селяніна?* Селяніну вельмі шкодзяць палявыя мышы. Яны ядуць маладыя ўсходы збожжа, ўвосень ядуць снапы, зімою салому, збожжа і г. д. Летам 1924 г. у час барацьбы з суслікамі на Случчыне сяляне скардзіліся на мышэй, якія робяць вялікі ўрон гаспадарцы.

У Цімкавіцкім раёне мышы зьелі чарцьвертую частку ўсяго ўраджаю. У Лепельскім раёне разьвялося гэтак багата мышэй, што ў адным месцы 15-ю пасткамі за некалькі дзён было злоўлена каля 4000 шт.

*Як бараніцца ад мышэй?* У барацьбе з мышамі ўжываецца шмат розных атруты (ядоў)—*мыш'яковіста-квасны натр., стрыхнін* і інш.

Гэта атрута, труцячы мышэй, шкадліва і здароўю ўдзельніка барацьбы—чалавека. Спачатку ён адчувае лёгкае занядужваньне, якое далей канчаецца сардэчнай хваробаю. Ад яду таксама гіне свойская жывёла і птушкі.

*З мэтай барацьбы* безкарысна ўжываньне задушлівых ядаў паветрам, бо мышы ўходзяць ад іх з сваіх нор другімі выхадамі.

Лепшым спосабам альбо мэтодам зьнішчэньня мышэй зьяўляецця *бактэрыяльны.* Ён ня шкодзіць здароўю чалавека і свойскай жывёле, а мышы ад яго гінуць.

*Што знача бактэрыяльны спосаб барацьбы?* Пры гэтым спосабе распаўсюджаваецца сярод мышэй заразная хвароба—тыфус. Гэту хваробу выклікаюць асобныя мікробы. Яны вельмі малыя. Іх можна бачыць толькі ў мікроскоп, шкло якога павялічвае ў 1200 раз. Мікробы гэтыя былі прымечаны першы раз расійскім вучоным проф. Мережкоўскім у 1893 г.

Дзякуючы гэтаму мікробу, у 1894 годзе была праведзенна ўжо барацьба з мышамі ў Хэрсонскай, Кіеўскай, Тульскай і інш. губэрніях Расіі. Усюды збожжа было абаронена ад мышэй. Такім-жа спосабам і ў Японіі (каля Токіо) было абаронена ад мышэй 3000 дзесяцін. Усе мышы былі так зьніштожаны, што нават за вялікую цану нельга было злавіць на гэтым полі ні аднаго мышаняці.

*Якая вартасьць мікробу Меражкоўскага?* Мікроб Меражкоўскага ня шкодзіць здароўю чалавека, а гэтак-жа жывёлы і птушкі, але выклікае мор на мышэй. Каб заразіць здаровую мыш, мікроб павінен папасьці ў страўныя шляхі, што бывае, калі здаровыя мышы зьядаюць трупы памёршых таварышак, або, чысьцячы іх скуру, зьядаюць вош ад хворай мышы. Такім чынам, зараза перадаецца пасьля сьмерці. Спосаб ужываньня культуры мікроба Меражкоўскага вельмі просты. Бяруць чыстую не пратухлую муку і дзеляць яе перш на дзьве часткі. У адну частку льюць узбаўтнуўшы прыгатаваны раней бульён з мікробам Меражкоўскага і разводзяць цеста. Другою часткай гэтае мукі цеста замешваюць. Потым робяць з яго каўбаскі вялічынёю з мезяны палец, кладуць у кош і нясуць на месца барацьбы. Рукі пры гэтым павінны быць чыста вымыты, каб цеста ня пахла чалавечым потам і не заразілася другімі бактэрыямі (мікробамі).

**Інструкцыя для барацьбы ў полі.**

Пры барацьбе з мышамі мы павінны мець на ўвазе наступнае:

1) Спачатку правесьці сярод сялян агітацыю, каб растлумачыць, што мышы ня ёсьць ужо няўхільнае зло. Шляхам гутарак і лекцый давесьці да разуменьня мажлівай барацьбы з мышамі.

2) Барацьбу лепш праводзіць па пастанове сельсавету.

3) Барацьба праводдзіцца грамадою (вёска, сяло, саўхоз). Пры гэтым праца вядзецца двумя шляхамі. Яна бывае агульнай па ўсёй заражонай плошчы, альбо паасобная (індывідуальная), калі ў адзін час кожны гаспадар працуе толькі на сваім полі. За выпаўненьнем пастановы назірае сельсавет.

4) Неабходна зрабіць рэгістрацыю заражонага поля, каб выявіць колькі патрэбна бульёну, так званае культуры. Для гэтага адзначаецца пробны вучастак плошчаю каля 300-400 кв. саж. для характарыстыкі ступені заражонасьці поля. У адзін дзень на гэтым полі забіваюцца ўсе выхады нор. На другі дзень падлічваюць адкрытыя занова выхады; гэта й будуць жывыя норы.

5) Для пасьпеха барацьбы неабходна весьці працу на полі, сенажаці, выгане і г. д., захапіўшы па магчымасьці найбольшую плошчу.

6) У першы дзень працы рабочыя забіваюць усе выхады нор. Для гэтага рабочыя строяцца ў рад на адлегласьці чатырох крокаў адзін ад другога і, ідучы па полі, забіваюць усе выхады нор.

7) На другі дзень рабочыя ідуць па полі такім-жа чынам і кідаюць у кожную пятую нару па кавалку цеста.

Колькасьць культуры залежыць ад ступені заражонасьці поля. Пры сярэдняй заражонасьці ад 100 да 500 нор на дзесяціну патрэбна ад 20 да 150 к. с. культуры, што дасьць 1/4 шклянкі. На кожную мыш патрэбна 1 к. с. культуры і 2 куб. с. мукі.

8) Барацьба ў полі праводзіцца вясною пакуль ня вывяліся маладыя мышы. Гэты час лічыцца лепшым і таму, што пасьля зімовае галадухі мышы ахвотна накідваюцца на раськіданы корм.

9) Неабходны для барацьбы бульён (гэтак-жа ўсе больш пэўныя веды па гэтым пытаньні) можна атрымаць на *Станцыі барацьбы са шкоднікамі сельскае гаспадаркі.*

**Е. Яцэнткоўская.**

(г. Менск).

# КРАЯЗНАЎСТВА

## У шуканьні вады.

Здаецца, на Беларусі ёсьць столькі вады, што гаварыць аб тым, як шукаць яе, зусім не патрэбна. Але жыцьцё робіць нам часамі неспадзяваныя здарэньні, як і было ў тым выпадку, аб якім я хочу тут расказаць.

З восені мінулага году ў наш габінэт геолёгіі (Горацкі с-г. і-т.) пачалі заходзіць сяляне з бліжэйшых прысёлкаў. Яны пасяліліся на новым месцы, далёка ад рэчкі і на высокім полі. Адчуваючы патрэбу ў вадзе, яны павыкопвалі студні хто ў 6, хто ў 8, 10 нават 12 сажняў і больш глыбіні, але да вады ніхто не дабраўся. „Ці ня можаце“, казалі яны нам: „прыехаць да нас, агледзець месца і паказаць—дзе і як знайсьці нам ваду“.

Але позьняя восень, а далей зіма зусім не пара для якіх-небудзь разведаў у гэтым напрамку. У гэты час вельмі цяжка, альбо і зусім немагчыма агледзець раўкі, каб ведаць, з якіх зямных парод (грунтоў) складзена мясцовасьць. Прыходзілася пашкадаваць, што да нас зьвярнуліся позна. Але ўсё-ж трэба было што-небудзь зрабіць. Вядома, што ў халодную пару магчыма зрабіць досьлед толькі часткаю (высотны памер, агляд студні, ў якой не маглі здабыць вады, памер суседніх студняў і ўрэшце сьвідраваньне). Вось, разьмеркаваўшы ўсё гэта, я з супрацоўнікамі пачаў выяжджаць на месца.

Ужо першыя досьледы паказалі нам, як сяляне, ня ведаючы напэўна, адгадвалі толькі, дзе трэба шукаць ваду. Ня кажучы аб усіх падрабязках, растлумачу сутнасьць справы.

Аб геолёгічным пабудаваньні вывучанага намі вучастку зямлі[1]) можна даведацца па прыкладзенаму малюнку. Ён паказвае прарэз гэтае мясцовасьці[2]), на якім параўнаны паміж сабою розныя заўважаныя намі выпадкі зьбіраньня студнёвых вод. Мы спатыкаем тут дзьве глiністыя тоўшчы (морэны $B_1$ і $B_2$); пры чым верхняе з іх афарбована ў чырвона-буры колер, а ніжняя мае „карычневаты“ водцень.

Як адна, гэтак і другая морэны маюць у сябе шмат каменьня. Як у вадной, гэтак і ў другой можна спаткаць праслоі, гнёзды і рэчышчы пяску (М). Верхная морэна бывае яшчэ пакрыта лёсам,[3]) ці лёсападобнымі суглінкамі (А), а то і пяском (М). Нарэшце, між морэн ляжаць тоўшчы пяску ($C_1$) з праслоямі жыру, жарствы і каменьня. Нам трэба яшчэ заўважыць, што таўшчыня абодвых морэн

---

[1]) Правы і левы берагі рэчкі Проні, паміж сёл Кледнявічы, Крукоўшчына, Гарадзец і Ракотка.

[2]) Прарэз зроблен у напрамку з захада на ўсход.

[3]) Лёс—пылаватая і ўраджайная прыродная глеба.

**Сводны гідрагеолёгічны прарэз** (профіль) часткі Горацкага раёну (паміж в. в. *Кледневічы* і *Ракотка*).

По дасьледам аўтараў 1925 г.




A — Лёс і лёсападобныя суглінкі.

B1 — Верхняя глиністая морэна з каменьнем.

B2 — Ніжняя гліністая морэна з каменьнем.

C1, C2 — Пяскі між-ледавіковыя з праслоямі жвыру, жарствы і каменьня.

I — Мясцовыя ваданосныя пазёмы.

M — Буйныя пяскі, падлеглыя морэнам (рэчышчы і г. д.).

a . . . . . . . . . l — студні.

вельмі не аднолькавая. Пры гэтым ніжняя морэна мае як-бы падземныя ўзгоркі з западзінамі паміж імі. А значыць можа здарыцца так, што на роўным месцы дзьве студні, якія знаходзяцца блізка адна ад другой, спатыкаюць гэту морэну на рознай глыбіні [1]).

Трэба дадаць яшчэ, што толькі пяскі могуць служыць ваданоснай пародай, а гліна адыгрывае ролю вадазатрымоўваючага ложа. Пасьля ўсяго вышэйнапісанага, разгляданьне прарэзу дасьць нам магчымасьць разабрацца ў астатнім.

Селянін, маючы надзею на блізкую ваду, капае студню (в) на спадзе лагчынкі. Але да вады, як мы бачым, дайсьці ня мог. Яго больш шчасьлівы сусед, які выкапаў студню поплеч (а) на высокім месцы ваду ўсё-ж дастаў (з вярхаводкі). *Студні „с“ і „е“ гэтак-жа ня глыбокія. Яны бяруць ваду з спатканых выпадкова пескавых гнёздаў і рэчышчаў верхняе морэны.* Астатнія ўсе студні ўжо досыць глыбокія— іншыя з іх маюць больш 12 сажн. Студні a, d, i карыстаюцца галоўным вадапрапускальным паземам, які зьвязан з міжледавіковымі пяскамі. *Большасьць крыніц па бакох лагчын і рэчак гэтак-жа бяруць тую самую ваду.* Але для таго, што ніжняя морэна вельмі ўзгорыстая, то вадапрапускальны пазём яе ня будзе бесперарыўным. *Ён робіць у сабе асобныя „вазёрцы“, якія знаходзяцца на рознай глыбіні* і адно ад другога аддзеляны бязводнымі ўзгоркамі. Вось чаму і здарылася, што поплеч з удалай студняй (і), другая суседняя будзе без вады. (Студня „і“ прарэзала і верхаводку, і галоўны пазём).

Здаецца, што тых прыкладаў, якія мы разгледзелі, досыць для таго, каб убачыць у якім становішчы іншы раз знаходзяцца сяляне, калі яны прымушаны шукаць ваду самі, маючы надзею толькі на шчасьце.

Справе гэтай можна памагчы толькі старанным вывучэньнем раёну і разьведкавым сьвідраваньнем, якое мы і пачалі амаль выпадкова, а цяпер хочам разьвярнуць гэту працу, як найшырэй. Нам трэба дайсьці да таго, каб заўсёды можна было даць сялянам патрэбную ім раду альбо пэўнае паказаньне. Але *геолёгічнае* вывучваньне гэткага месца, як Горацкі раён, вельмі цяжка. Рачныя даліны і лагчыны тут ня глыбокія, дзякуючы чаму яны і не даюць патрэбных глыбокіх прарэзаў. Пры гэткіх варунках толькі штучныя прарэзы, альбо сьвідраваньні могуць выявіць нам *геолёгічнае* пабудаваньне мясцовасьці. Паміж тым, да цяперашняга часу у нас не было грошай ні ня язду, ні тым болей на самае сьвідраваньне.

А ўжо цяпер сяляне з вялікай ахвотай даюць геолёгу фурманку, як для яго з супрацоўнікам, гэтак і для сьвідравальных прылад. Разам з тым, сяляне даюць і рабочую сілу, бо яны зацікаўлены ў выніках. Гэткім чынам выходзіць, што геолёг пры вельмі абмяжованых сродках мае магчымасьць вывучаць цікавы для яго раён. Магчыма, што у спэцыялістага з цягам часу назьбіраецца шмат матэрыялу, які у навуковым і практычным кірунках можа мець вялікую каштоўнасьць.

Цяпер аб другім баку справы. Вядома, што селянін пасьля зробленай навуковай разьведкі, ня будзе ўжо болей шукаць патрэбную яму ваду на шчасьце і капаць студню наўгад. Ён заўсёды можа атры-

---

[1]) Узгорчатасьць ніжэйшай морэны залежыць ад варункаў яе стварэньня. Морэна гэта выяўлае з сябе шмат, без усялякага парадку нагароджаных ледавіковых наносаў, пад якімі пахаваны больш старадаўні рэльеф (пяскі $C_2$) і якія (лед. наносы) у свой чарод былі размыты вадой, а яшчэ пазьней перакрыты ўжо пяскамі. ($C_1$)

Ф. Л.

маць раду альбо пэўнае паказаньне з боку спэцыялістых, ня страціўшы на гэта ні капейкі. А другое, селянін іншы раз дарэмна траціў вялікія грошы і шмат часу, каб выкапаць глыбокую студню, якую потым прыходзілася кідаць, бо яна не дала вады.

Трэба яшчэ адно заўважыць. У той час, як мы рабілі разьведку сяляне зварочваліся да нас з пытаньнямі ня толькі па адшуканьні вады для таго ці іншага прысёлка, але і з пытаньньмі, якія маюць каштоўнасьць агульнага характару. Гэткім чынам, пачынаюцца размовы аб жыцьці падземных вод, аб умовах іх заляганьня, і інш. Адгэтуль ужо адзін крок да праўдзівых лекцый аб жыцьці і гісторыі зямлі.

Гэтак школа і жыцьцё ўзаемна падыходзяць адно да другога.

Цяпер нам трэба пачатую і нават ужо трохі пабудаваную справу прадоўжыць і пашырыць. А сялянству нашага раёну трэба добра аб гэтым ведаць і зварочвацца да нас з *пытаньнямі пры шуканьні вады*.

Можна верыць, што цесная сувязь паміж сельска-гаспадарчай школай і селянствам, паміж навукай і жыцьцём будзе мацнець і расьці.

**Проф. Ф. Лунгерсгаузен.**

(Габінэт геолёгіі Горацкага с-г і-ту).

---

# Ворагі і дабрадзеі ў сельскай гаспадарцы.

Прышла вясна. Прыляцелі з далёкіх краін птушкі, павыпаўзалі з месц зімоўкі жабы, вужакі; выляцелі кажаны, замятусіліся мышы. Усё пачынае жыць поўным жыцьцём. Чалавек жа разглядае кожную жывёліну ці збоку яе карысьці, ці шкоды. Асабліва гэта цікава для сельскіх гаспадароў. Трэба сказаць, што нашы гаспадары часта маюць тут няправіловы погляд і трымаюцца варожа ці вядуць барацьбу там, дзе жывёліна заслугоўвае прыхільнасьці і падзякі.

Робіцца гэта таму, што селянін—гаспадар не заўсёды ведае, якая жывёліна прыносіць карысьць і якая шкодзіць. Так, да вядомай усім жабы, хоць ня пекнай на выгляд, але вельмі карыснай, гаспадар заўсёды трымаецца варожа. Другі прыклад. Усім вядома, што вясковыя дзеці за адно лета прыносяць птушкам больш шкоды, чым усе яго натуральныя ворагі за цэлы год. І ніхто ім гэтага не забараняе. Замест таго, каб стварыць спрыяльныя варункі, напрыклад, для такіх птушак, як шпак, ластаўка і г. д. дзеці сваімі адносінамі адганяюць птушку ад свайго будынку, саду, гароду. Больш таго, сяляне часта глядзяць на разбураньне птушыных гнёзд дзецьмі, як на няшкодную забаву.

А між тым, гаспадар не зьвяртае ўвагі на шмат якіх шкоднікаў. Так, вядома, што мыш ня больш церпіць ад гаспадара чым кажан, ці тая-ж самая жаба, ястраб, начная сава. Усіх іх селянін пры ўсялякім выпадку забівае. І гэта ў той час, калі мыш і ястраб зьяўляюцца ворагамі гаспадара, а начная сава, жаба, кажан — яго дабрадзеі.

Гаспадары Амэрыкі добра ўцямілі карысьць, якую прыносяць гаспадару большасьць палявых птушак і ня толькі не вядуць з імі барацьбы, а стараюцца прывабіць іх да сваіх садоў, гародаў, палёў, сенажацяй. Як бачым, і тут нам можна браць прыклад з заморскіх стран. Трэба зразумець, што шпак, ластаўка, дрозд, сініца, стрыж, начная сава, кажан, жаба, вожык і інш.—ёсьць дабрадзеі селяніна. Усе яны зьнішчаюць нязьмерны лік усялякае машкары, жукоў, чарвей, вусеняў, а начная сава і вожык—мышэй. Усе яны прыносяць чалавеку непрыметную, але вельмі значную карысьць. А гэта значыць, што ня толькі сам гаспадар не павінен забіваць іх, а наадварот бараніць і ад сваіх дзяцей.

Справа, здаецца заслоугоўвае таго, каб яе парушыць. Ні асобных сродкаў, ні шмат часу яна не вымагае.

**Бедрыцкі.**

---

## Розныя адносіны да лесу.

Саўхоз Лізавеціна знаходзіцца ў 1¹/₂ вярсты ад мястэчка *Краснапольля* (Калінінская акруга). У саўхозе ёсьць добры сад (14 дзес.) і пасека пчол. Навокал саду ўсе дарожкі абсаджаны вельмі прыгожымі ліпамі. Яны маюць ужо год 30, але нажаль большая палова з іх стаіць без кары і памаленьку ўсыхае.

Тут-жа ў садзе, каля пасекі і кожнай хаты ёсьць шмат бяроз, з якіх жыхары саўхозу здабываюць сабе сок-бярозавік.

Больш прыкры малюнак можна было бачыць па дарозе ад Краснапольля да вёскі *Палуж* (18 вёр. ад Краснапольля). Тут па дарозе растуць старыя, прыгожыя бярозы, і „плачуць у тры рэчкі". Сяляне, не шкадуючы гэтых прадстаўнікоў лесу, панадсякалі іх сякераю, каб здабываць той-жа сок-бярозавік. Часткаю сок цячэ ў ночвы, а большасьць проста на зямлю.

Усё гэта шкодзіць дрэву: яно пачынае гніць, а далей праз некалькі год і зусім сохне. Гэта дрэнныя адносіны да *Лесу*.

Другі малюнак мяст. *Касьцюковічы* (Калінінскай округі). Моладзь добра сьвядома аб каштоўнасьці лесу. У першай гутарцы з агрономам закідвае яго пытаньнямі. У м-ку амаль з пачатку карасавіка праводзілася пасадка лясных дрэў па ўсіх вуліцах (раней аб гэтым быў загад РВК'а). Сяляне, ведаючы гэта, кожны кірмаш прывозяць на продаж бярозкі, кляны, рабіны і г. д.

Праз некалькі год жыхары мяст. Касьцюковіч з здавальненьнем пасядзяць на вуліцы ў час адпачынку.

**С. Т.**

# С.-Г. ХРОНІКА

### Ачыстка насеньня.

У красавіку м-цы на агровучастках усяго працуе ў сялянства па ачыстцы насеньня 562 машыны (ня лічучы машын саўхозаў) яны складаюць 135 абозаў. Да 1 красавіка ачышчана ўсяго звыш 500.000 пуд. сялянскага насеньня.

**Снабжэньне жыхарства сартовым (палепшаным) насеньнем.**

Кіраўніцтва Сельскай Гаспадаркі разьмеркавала па акругам 12.018 пуд. швэдзкага сартовага аўсу і 30.818 пуд. ячменю, атрыманыя з заграніцы (авёс з Швэцыі, а ячмень з Чэхаславаччыны).

Паказанае насеньне выдаецца насенным таварыствам, саўхозам і некаторым прысёлкам, даўшым згоду гадаваць гэта насеньне і потым пашыраць яго сярод ўсяго насельніцтва.

Разьмеркаваньне насеньня па акругах даручана АКРЗА і коопэратывам (крэдытовым таварыствам).

З мэтай дапамогі маламоцным гаспадаркам НКЗ сумесна з Белсельбанкам разьмяркована па акругам 58.830 пуд. аўсу і 34.750 пуд. ячменю для перасеву зімовага палетку і засеву яравога. Насеньне дадзена, як пазычка.

### Становішча засеваў на 15 красавіка 1925 г.

(Весткі ЦСК). Зімовыя засевы і травы па ацэнцы да 5 на 15 красавіка выглядаюць гэтак:

| Акругі | Зімовыя засевы. | | Травы. | |
|---|---|---|---|---|
| | Жыта | Пшаніца | Канюшына | Сухадольныя сенажаці |
| Полацкая | 2,3 | 2,3 | — | — |
| Віцебская | 2,5 | 2,3 | 2,6 | — |
| Барысаўская | 2,8 | 2,7 | 2,7 | 1,7 |
| Аршанская | 2,4 | 2,1 | 2,4 | 1,9 |
| Менская | 2,7 | 2,7 | 2,5 | 2,3 |
| Магілёўская | 2,6 | 2,6 | 2,6 | 2,6 |
| Калінінская | 2,4 | 2,5 | 1,6 | 1,4 |
| Бабруйская | 2,7 | 2,7 | 2,9 | 2,1 |
| Слуцкая | 2,8 | 2,6 | 2,6 | — |
| Мозырская | 2,5 | 2,1 | 2,2 | 2,4 |
| Па Беларусі | 2,6 | 2,5 | 2,3 | 2,1 |
| Было на 1 сак. | 2,5 | 2,6 | — | — |

### Звальненьне ад с.-г. падатку пчалярства.

Наркомфін БССР паведаміў Агроаддзел НКЗБ (14/IV—25 г.), што ў наступным годзе ўсе пчалаводныя пасекі, якія вядуцца сіламі сям'і, лічацца трудавымі і ад сельска-гаспадарчага падатку ў наступным годзе звальняюцца.

---

### Снабжэньне насельніцтва яйкамі завадзкой птушкі.

Выхавальнік пташніцтва НКЗБ „Пяцеўшчына“ што месяц прадае яек завадзкіх птушак па цане:

Яйкі курэй (фавероль, лососавыя і мінорки) 400 шт. па 2 р. дзесятак;
„ гусей (мецісы тулузкія) 100 шт. па 2 руб. 50 кап. „
„ качак (мецісы пекінскія) 150 шт. па 1 руб. „
„ чорных індыкаў 100 шт. па 2 руб. 50 кап. „

---

### Навуковае Таварыства па вывучэньню Беларусі пры Горы-Горацкім с.-г. Інстытуце.

Пры Горы-Горацкім с.-г. Інстытуце залажылася Навуковае Таварыства па вывучаньню Беларусі.

Таварыства мае сваёй мэтай дасьледаваць Беларусь з боку сельскае гаспадаркі, яе экономічных варункаў, з боку прыроды і інш.

Таварыства шырока распачало працу па зьбіраньню беларускай тэрмінолёгіі на вёсцы.

У працы Таварыства прымаюць чынны ўдзел усе навуковыя сілы Інстытуту, а гэтак-жа і студэнцтва.



# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

Зацьверджана Нам. Наркомзема т. Русецкім (12/II—25).

## Палажэньне аб дагаворных вучэбна-паказальных і паказальных пасеках БССР.

§ 1. У мэтах стварэньня ўмоў, спрыяючых распаўсюджваньню сярод жыхарства прыёмаў і спосабаў культурнага і рацыянальнага пчалярства, могуць быць скарыстоўваемы культурныя пасекі пчалярскіх аб'яднаньняў і прыватных пчаляроў на дагавроных варунках з земорганамі, пад назвай „Вучэбна-паказальныя і паказальныя пасекі".

§ 2. Вучэбна-паказальнымі пасекамі і паказальнымі могуць служыць пасекі са спосабамі і прыёмамі рацыянальнага пчалярства— з вульлямі лепшых сыстэм, штучнай вашчынай, мёдагонкай, контрольным вульлем, вядзеньнем пасечнага дзеньніка і прыносячыя прыбытак.

§ 3. Вучэбна-паказальнаю і паказальнаю можа быць пасека, належачая да пчалярнага аб'яднаньня, гэтак і прыватнай асобе. У апошнім выпадку патрэбна, каб асоба належала да пчалярнага аб'яднаньня.

§ 4. Пчалярнае аб'яднаньне, ці прыватныя пчаляры, якія маюць культурную пасеку і жадаюць, каб іх пасека была залічана ў лік вучэбна-паказальных ці паказальных, прымаюць для сябе за абавязак дапушчаць на сваю пасеку ўсіх жадаючых азнаёміцца са спосабамі вядзеньня разумнага пчалярства, акром таго мусяць весьці вучэбна-паказальную і паказальную працу, ставіць вопыты над пчоламі, мёданоснымі расьлінамі і г. д.

§ 5. Заявы аб залічэньні пасекі ў лік вучэбна-паказальных ці паказальных падаюцца ў Акруговы Зямельны Аддзел.

§ 6. Акруговы Зямельны Аддзел для абсьледваньня пасекі і вызначэньня ўзнагароды пасечніку, пасылае інструктара-пчаляра, які па абсьледваньні прадстаўляе Адзелу данныя аб пасецы і свой погляд, наскольні пасека і асоба ёю кіруючая адпавядаюць вядзеньню вучэбна-паказальнай ці паказальнай справы.

§ 7. Акруговы Зямельны Аддзел, разгледзеўшы данныя і вывад інструктара пчалярства, у выпадку прызнаньня пасекі адпавядаючаю вучэбна-паказальным ці паказальным мэтам, а ўзнагароду пасечніку мажлівай, выносіць сваю пастанову аб заключэньні ўмовы, і перасылае на зацьвярджэньне ў Кіраўніцтва Сельскай Гаспадаркі НКЗ.

§ 8. Умова заключаецца Акруговым Зямельным Адзелам пасьля зацьвярджэньня яго пастановы Кіраўніцтвам Сельскай Гаспадаркі НКЗ.

§ 9. Узнагарода пасечніку можа складацца з атводу яму на пэўны тэрмін вучастка зямлі ці сенажаці з запаснага фонду; з грашовай ці натуральнай прэміі ў выглядзе пчалярскіх прылад, штучнай вашчыны, насеньня мёданосных расьлін, штучнага ўгнаеньня і г. д.

§ 10. Род і колькасьць узнагароды кожны раз вызначаецца па згодзе старон на акрэсьлены тэрмін (на год і больш).

§ 11. Пры падпісаньні ўмовы выразна паказваюцца абавязкі старон.

§ 12. На дагаворнай вучэбна-паказальнай ці паказальнай пасецы павінен весьціся дзеньнік, ў які запісваюцца ўсе прыбываючыя на пасеку і споўненыя на пасецы вучэбна-паказальныя і паказальныя працы і парады; пры чым усе перабываючыя павінны расьпісацца ў дзеньніку. Дзеньнік гэты на пасеку выдае Зямельны Аддзел.

§ 13. Вучэбна-паказальныя і паказальныя пасекі контралююцца спэцыялістым-пчаляром, пры чым пасечнікі маюць волю ў сваіх гаспадарчых працах і контралююцца толькі з боку тэхнічнага і ў сэнсе выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў.

---

# З інструкцыі аб спосабах папярэджваньня лясных пажараў.

1. Усе месцы рубак у лесе абавязкова павінны ачышчацца ад рэштак загатоўкі ў першую вясну пасьля рубкі, да наступленьня сухой пагоды і ўва ўсякім выпадку не пазьней 15 траўня.

2. Ачыстка абыймае сабою зьбіраньне вяршын, сукоў-шчэпак у кучы і вывазку іх ці спальваньне на месцы.

3. Лясныя дзялянкі павінны ачышчацца ад рэштак вырубу мясцовымі жыхарамі, за што ім выдаецца драўляны матэрыял і сукі, згодна правіл ад 6 кастрычніка 24 г. і 20 лютага 25 г.

4. Квартальныя прасекі ў лясных дзялянках павінны быць пашыраны да 2-х саж. шляхам продажы растучага там лесу на корані.

5. Існуючыя прасекі патрэбна што-год ачышчаць ад лесу маладняку і травы сіламі ляснойварты, а гэтак-жа і мясцовага жыхарства за што ім даецца права карыстацца бяз кошту травой на прасеках; у месцах асабліва небясьпечных з пажарнага боку, пры дарогах, ачыстка робіцца ляснойі пажарнай вартай, а гэтак-жа і мясцовым насельніцтвам, дзеля чаго шырока скарыстоўваць „Тыдзень Лесу“.

6. Вучасткі, на якіх знаходзяцца лясныя склады, заводы, вядзецца распрацоўка торфу і інш., павінны вартавацца ўласьнікамі гэтых складаў і заводаў; дзе гэта магчыма, навакол іх прасякаюцца адпаведнай шырыні прасекі с зьнішчэньнем травы і драўняных рэштак, гэтак-жа разводзіцца ліставы лес.

7. Загатоўка і вываз лясных матэрыялаў летам дазваляюцца лясьнічымі толькі ў выключных выпадках, пры чым пакупшчыкі лесу бяруць на сябе адказнасьць за выкананьне ўсіх проціпажарных правіл.

8. Пры раскладваньні агню летам у лесе ці блізка каля лесу абавязкова патрэбна ачышчаць ад травы і сухіх лісьцяй навакол агню паласу ў 1 сажн. шырынёю. У хваёвых насаджэньнях і на тарфяных балотах раскладка агню забараняецца.

# Па лясному кіраўніцтву.

*Цыркуляр № 82.*

**Аб зьніжэньні таксы на лес для сялян.**

*Усім Акруговым Інспэктаром Лясоў і Лясьнічым БССР.*

*(За 11 красавіка 1925 год. № 4—В-82—17224).*

У дапаўненьне разасланай 27 красавіка Акрінспэктаром Лясоў тэлеграмы, паведамляецца для ведама і выкананьня, што пастановаю Саўнаркому БССР ад 26 сакавіка г. г. для сялян таксы 23 верасьня 1924 г. зьніжаны на буйны і сярэдні будаўляны (сасновы і яловы, сыра-растучы лес) і дровы ўсіх парод у наступным разьмеры:

| | | | |
|---|---|---|---|
| для лясных дзялянак, прылічаных да | 1 разр. | на — 50 | проц. |
| „ „ „ „ „ | 2 „ | „ — 47 | „ |
| „ „ „ „ „ | 3 „ | „ — 45 | „ |
| „ „ „ „ „ | 4 і 5 „ | „ — 40 | „ |
| „ „ „ „ „ | 6, 7 і 8 „ | „ — 30 | „ |

Будаўляны сухастой, ветравал і буралом для сялянства цэніцца на 30% ніжэй сыра-рустучага. Зьніжаныя таксы маюць моц з 27 сакавіка г. г., гэта значыць ад дню абвячшэньна іх у мясцовай газэце „Звезда“.

За Начальніка кіраўніцтва лясамі *Хрушчоў*

Загадчык Аддзелу Эксплёатацыі Лясоў *Седашоў.*

**Выданьне Наркомзема**

Адк. рэд. Зьм. Прышчэпаў.

Рэд кол. *Э. Русецкі. А. Смоліч. Сьц. Тупяневіч.*

# Зьмест.